Газэта заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991
Выдавец Рэдакцыя газэты «Наша Ніва»

# НАША НІВА

VIII год выданьня
http://members.xoom.com/Nasa_Niva

17 жніўня 1998 г.

№15 (112)

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## АД РЭДАКЦЫІ

### *Суд над беларускай мовай*

На мінулым тыдні Вышэйшы гаспадарчы суд РБ разглядаў іск «Нашай Нівы» да Дзяржаўнага камітэту па друку. Мы просім суд адмяніць папярэджаньне Дзяржкамдруку аб «недапушчальнасьці скажэньня агульнапрынятых норм выкарыстоўваемай мовы». «Скажэньнем» Дзяржкамдрук называе клясычны беларускі правапіс Браніслава Тарашкевіча (1918 г.), а «агульнапрынятымі нормамі» — пастанову Саўнаркаму БССР ад 1933 г. Гэтак сёньня, у канцы XX ст. улады РБ абвінавачваюць газэту ў парушэньні законаў самых чорных часоў сталінскага таталітарызму.

Суд адбываўся па-расейску. Па-расейску выступалі і судзьдзя, і прадстаўнік Дзяржкамдруку. «Наша Ніва» выступала па-беларуску. Для староньняга назіральніка і проста разумнага чалавека гэтага ўжо дастаткова, каб зрабіць выснову, што процістаяньне незалежнага выданьня з аднаго боку і дзьвюх дзяржаўных установаў з другога адбываецца не па лініі «наркамаўка» — «тарашкевіца», а па лініі «незалежная беларуская мова» — «дзяржаўная расейская мова». А паколькі наш іск — гэта толькі спроба супраціўляцца ў працяглым працэсе закрыцьця «Нашай Нівы», які сваім папярэджаньнем распачаў Дзяржкамдрук, таму гутарка ідзе пра самое права беларускае мовы на існаваньне.

Не сакрэт, што бараніць «моўныя» законы 1933 году ня выйдзе сёньня з уласнае волі ніводзін беларускі грамадзянін. Бо гэтыя законы прыдумляліся не для паляпшэньня правапісу, а для паступовага выгнятаньня беларушчыны з грамадзкага ўжытку (што ўрэшце й адбылося). Таму адзіным знакам абароны беларускае мовы й яе жывога жыцьця на сёньня застаецца наш несавецкі правапіс. Справа нават стаіць шырэй. Правапіс Б.Тарашкевіча —гэта ўсё, што засталося ў беларускай апазыцыі пасьля страты ўлады і нацыянальнай сымболікі. На жаль, антыбеларускі рэжым разумее гэта лепш за саму апазыцыю. Таму й распачаты гэты наступ на апошні фарпост несавецкае беларушчыны сярод газэт — «Нашу Ніву».

Вышэйшы гаспадарчы суд, натуральна, не зьвярнуў увагі на гэты палітычны аспэкт працэсу і перавёў спрэчку ў лінгвістычную плоскасьць. А паколькі для гаспадарчага суда займацца канчаткамі й склонамі — справа не ўласьцівая, суд згадзіўся з нашай прапановай правесьці экспэртызу спрэчкі сіламі навукоўцаў. Супраць экспэртызы рашуча выступіў рускамоўны прадстаўнік Дзяржкамдруку. Яму, мабыць, і так усё ясна ў 50-гадовым беларускім лінгвістычным супрацьстаяньні. Што праўда, суд прыняў прапанову Дзяржкамдруку — экспэртызу даручаць правесьці адной установе — акадэмічнаму Інстытуту мовазнаўства, а ня некалькім установам (мы прапаноўвалі яшчэ катэдры беларускай мовы Гарадзенскага й Менскага пэдагагічнага ўнівэрсытэтаў). Затое ў экспэртную камісію будуць уключаныя чацьвёра спэцыялістаў, якіх прапанавала «Наша Ніва». А прапанавалі мы аўтарытэтных

*Працяг на старонцы 2.*


Славамір Адамовіч

*Ты хацеў бы глядзець у гэтыя сінія вочы,*
*ты хацеў бы ў плячо гэта белае пацалаваць,*
*але дзень над Краінай зьмяніўся бясконцаю ноччу*
*і адно ёсьць жаданьне — за Волюісьці ваяваць!*

## НОВЫ НАВАГРАДАК



Пераходныя часы звычайна спараджаюць у грамадзтве цікавасьць да ўсялякіх містыфікацыяў і фантазійных сюжэтаў. Сур'ёзныя людзі пра такія рэчы не гавораць. Між тым, з сноў ды лятункаў часам паўстаюць вобразы мастацтва, літаратуры. А містыфікацыі ды фантасмагоры бяруць раптам, ды набываюць матэрыяльную сілу.

У нядаўнім нумары «НН» Адам Глёбус казаў пра тое, што перанес бы сталіцу Беларусі ў Наваградак. Нельга назваць гэтую ідэю зусім новай. У пошуках свайго духоўнага адраджэньня беларусы заўсёды згадваюць, што мелі ў гісторыі старабеларускіх дзяржаўных утварэньняў чатыры сталіцы: Полацак, Навагрудак, Вільню й Менск.

*Працяг на старонцы 8.*

## ПАРТРЭТ ДАРЫЯНА ГРЭЯ

Беларускія пісьменьнікі наведалі прэзыдэнта. Казалі, дыктатар, зьнішчальнік мовы, адбіральшчык Дома літаратара... І не стрымаліся. Быкаў, праўда, не хадзіў. Кажуць, таму што ў Фінляндыі. Брыль не пайшоў таксама. Праўда, чаму — ня кажуць. Хоць, думаю, цудоўна ведаюць. Бо гаварыць або нават думаць адно — высокае, а рабіць зусім іншае, «суетное» — сорамна. І яшчэ, памятаеце, што Сотнікаў казаў Рыбаку ў часе допытаў? Ня лезь, казаў, не адмыесься.

Пералік хадакоў, надрукаваны ў газэтах, нічога, акрамя шкадаваньня, ня выклікаў. І нават не таму, што пайшлі. І не таму, што пераконвалі за нацыянальную ідэю. І не таму, што вярнуліся ні з чым. Проста ўспомніліся колішнія часы. Калі большасьць з гэтых аўтараў чыталася зь піетэтам. І калі імёны іх мелі рэальную грамадзкую вагу. А сёньня... У сьвятле паходу раптам стала так балюча відаць, што валадары дум — звычайныя людзі, і што маладзейшым пакаленьням імёны іхныя наўрад ці што-небудзь скажуць так, як казалі нам.

Нават падумалася, ну чаму ж яны не пайшлі ўсе, разам? Сіла канфармізму беларускай пісьменьніцкай арганізацыі заўсёды выяўлялася ў адзінстве. Усе хадзілі ў ЦК — і шчырыя камуністы і патаемныя нацыяналісты. Але канфармізм не пераносіць расколу. Бо адразу відаць, якая частка цела жывая, а якая адсохла.

*Працяг на старонцы 12.*

*З 17 па 30 ліпеня ў Барсэлёне, у каталёнскім цэнтры багемы «Mediterraneo» з посьпехам прайшла выстава работаў фотамастачкі Алены Адамчык, нашае сталае аўтаркі ад першага нумару «НН».*


Здымак Алены Адамчык

# Лісты ў рэдакцыю

Добры дзень, спадары нашаніўцы !
Беларускага слова рупліўцы,
старажытнай гісторыі знаўцы,
а таксама найноўшай выдаўцы.

Толькі разам мы адбудуем новую вольную Беларусь. І ніхто ня зможа перашкодзіць нам працаваць на «Нашай Ніве».

Посьпехаў вам.

**Анатоль Сазонаў, вэтэран, Слуцак**

Шаноўная рэдакцыя!

Якіх толькі ні было ў наш век «ізмаў», у якім значэньні і мэтах, скажам так, яны ні эксплюатаваліся! Не гаворачы ўжо пра ўтапічны сацыялізм, якім у свой час захапляліся рамантыкі, во колькі іх зьявілася новых, што ўтварае цэлае сэмантычнае гняздо: навуковы сацыялізм, сацыялізм – гэта ўлік і ашчаднасьць (Ленін), казармэнны і разьвіты сацыялізмы, урэшце, сацыялізм з чалавечым тварам.

Ёсьць яшчэ адзін сацыялізм – гэта шведзскі. Але аснова яго – прыватная ўласнасьць і вольнае прадпрымальніцтва, што камуністам і іх люмпэнскаму электарату – востры нож у сэрца. Таму ён не ў залік.

Здавалася б, што яшчэ з абоймы гэтых «ізмаў» выціснуць і прыдумаць? Аказваецца, можна. Гэта – «рынкавы сацыялізм», які, ня ў прыклад сваім папярэднікам, прывядзе да сьветлай будучыні. Адкрыцьцё гэтай тэорыі належыць нашаму шаноўнаму прэзыдэнту.

Праўда, гора-тэарэтыкі ніяк ня могуць уцяміць, што гэта, гаворачы вобразна, за страва – «рынкавы сацыялізм» і з чым належыць яе ўжываць. Але гэта сьведчыць толькі пра тое, што, як і ва ўсе часы і эпохі, і ў наш цывілізаваны век не пераводзіліся скептыкі і дагматыкі, якія ня ўлічваюць, што ўсё цячэ, усё зьмяняецца.

І зусім беспадстаўна думаюць тыя, што ў нас занадта прагматычнае кіраўніцтва, без тэарэтычнай базы, пэўнай канцэпцыі і глябальнай праграмы. Таму, маўляў, і ня ведаем, якое грамадзтва будуем – сацыялізм, капіталізм ці яшчэ што.

Між тым, ці трэба дужа ламаць галаву, каб убачыць і зразумець, што ў Рэспубліцы Беларусь будуецца, узводзіцца, адраджаецца, усталёўваецца? Так, як і ва ўсялякай прававой дзяржаве, ёсьць і ў нас Канстытуцыя. Але што яна ў параўнаньні з указамі, дэкрэтамі, рашэньнямі?.. Нуль бяз палачкі. Як і ва ўсялякай дэмакратычнай дзяржаве, ёсьць парлямэнт. Але чым ён адрозьніваецца ад тых Вярхоўных Саветаў, якія йснавалі ў савецкія часы – адзінадушнае галасаваньне і, ня дай бог, каб зьявіліся фракцыі, апазыцыя, іншадумцы. Недарэмна яго называюць кішэнным, але ўдзельнікам яго гэта «да лямпачкі» – хай называюць хоць гаршком, абы ў печ ня ставілі. Раней ва ўсім уладарылі безразьдзельна райкамы і абкамы. Цяпер – «вэртыкалі» і «гарызанталі». Але ж хрэн не саладзей рэдзькі. Ну і, зразумела, адміністрацыйна-камандавае кіраваньне са сваімі чыньнікамі – страхам, вочкаўціральніцтвам і паказухай. Словам, падбіраюцца нават крошкі папярэдніх «ізмаў», а ва многім ідзем і далей. Напрыклад, у пэрыяд «разьвітага сацыялізму» часта гучалі словы: «Эканоміка павінна быць эканомнай». У нашым «ізьме» яна стала «сацыяльна арыентаванай».

Таму, мусіць, і прыдумалі столькі падаткаабкладаньняў, што літаральна не хапае пальцаў, каб пералічыць іх. А пра «дэкляраваньне даходаў і маёмасьць фізычных асоб» нават у савецкія часы ня чулі й ня ведалі такога.

Між тым, «Дэкрэт» ужо ўступіў у дзеяньне: паўсюдна ў вёсках пачаўся пералік пладовых дрэваў, ягадных кустоў і нават клубнічных градак. Паводле паперы, якая спушчаная мясцовым уладам, яны абавязаныя ўправіцца з гэтай дзяржаўнай справай на працягу двух месяцаў.

Маладыя вяскоўцы дзівяцца – няўжо і за гэта будуць браць падатак, а пажылыя, каму ўжо раз даводзілася выкарчоўваць з падворку садовыя дрэвы, горка ўсьміхаюцца, маўляў, гісторыя паўтараецца.

Калі з адной часткай «адкрыцьця», якая датычыць «сацыялізму», поўны парадак і ажур, то з другой – рынкам, прама скажам, ні самім паглядзець, ні людзям паказаць.

Так, чэкавая прыватызацыя, якая павінна была зрабіць усіх нас гаспадарамі-ўласьнікамі і тым самым узмацніць матывацыю да больш актыўнай працы, аказалася мыльнай бурбалкай, ад якой ні дзяржаве, ні іх уладальнікам ні холадна, ні горача.

Ня лепшая справа і з рэальным разьдзяржаўленьнем і прыватызацыяй, разьвіцьцём малога бізнэсу, фэрмэрства, іншых рынкавых структур і мэханізмаў. А чаго, гавораць, гарачыцца, можна апынуцца ў цісках шокавай тэрапіі, ад якой адны толькі пакуты. Няхай лепш будзе хірургічная тэрапія, г. зн. выпрабаванае камандава-бюракратычнага кіраўніцтва, для якога няма страшней зьвера, чым прадпрымальнік, бізнэсмэн, гаспадар-уласьнік і іншае «жульлё».

А як жа тады з раўнапраўем розных формаў уласнасьці, шматукладнасьцю эканомікі, чым любіць хваліцца прэзыдэнт перад замежнымі гасьцямі? Ды так, як і зь іншым «раўнапраўем», напрыклад, моўным – роднае слова ў сваёй хаце загнана ў кут падчаркай, а «братава» – ва ўсёй сьвятліцы гаспадыня.

Падобнае «раўнапраўе» і з эканамічнымі сэктарамі – дзяржаўным і прыватным, хаця апошні, дзе яму, як траве з-пад асфальту, ўдаецца прабіцца, дэманструе свае перавагі.

Тым часам, крызыс не спыняецца, набывае новыя формы і праявы. Растуць дэфіцыты і цэны, іншыя цяжкасьці. Але гэта невялікая бяда. Хіба было лягчэй і саладзей ва ўмовах былых «ізмаў», пра якія ўспамінаем з настальгіяй? Тады тыя самыя заўсёдныя дэфіцыты й нястачы лічыліся перавагай сацыялізму, якому, як вышэйшай форме сацыяльнай вытворчасьці, не ўласьціва такая прыкрая зьява, як крызыс перавытворчасьці, ад чаго так пакутуе капіталістычны сьвет.

І яшчэ. Каб і козы былі сытымі, і сена было цэлым, ня трэба верыць усходняй мудрасьці: «Колькі ні гавары «халва» – у роце саладзей ня стане». Стане, калі замест «халва» ўжываць такія салодкія словы, як посьпехі, дасягненьні, перамогі, у скрайнім выпадку – «подвижки» і станоўчыя тэндэнцыі, а пра горшае ўспамінаць мімаходзь, як пра «дробныя недахопы». Пераканаўчае сьведчаньне таму – вопыт былых «ізмаў», калі ён служыў невычэрпнай крыніцай аптымізму і энтузіязму. Так што тут нам няма чаго адкрываць – бяры гатовенькае. І, дзякуй богу, бяром, не лянуемся. У гэтым пра нас ніяк ня скажаш, што мы «Іваны, якія не памятаюць радзтва».

Яркае сьведчаньне таму і недаўняе прапагандысцкае шоў, так званае слуханьне ў парлямэнце – як у РБ абараняюцца і захоўваюцца правы чалавека і дэмакратычныя свабоды. Колькі «салодкіх» словаў прагучала з трыбуны, якія ўслаўлялі «дэмакратыю па-беларуску», маглі пазайздросьціць нават прапагандысты былога СССР.

І ўсё ж адна непрыемнасьць застаецца. Некаторыя дзяржавы, асабліва далёкага замежжа, пад надуманымі абвінавачваньнямі, быццам у нас парушаюцца правы чалавека, няма свабоды слова, не ідзе рэфармаваньне эканомікі, адмаўляюцца ад партнэрства. Але й тут знойдзены выхад. Калі не пускаюць праз парадны ўваход, дык мы – народ ня горды, гатовыя праскочыць і праз чорны. Як сьведчыць практыка, такая спрытная палітыка, здаецца, не зусім бясплённая. Вунь колькі расейскіх згаладнелых рэгіёнаў рвуцца пазнаёміцца зь мірным мэнталітэтам браткоў-беларусаў. Знаходзяцца такія ахвотнікі і ў далёкім замежжы, праўда, ня першага гатунку.

І ня дзіва, што тэарэтычныя пошукі працягваюцца. У нядаўнім пасланьні прэзыдэнта парлямэнту ўрачыста абвешчана, што з гэтага моманту пачнецца будаўніцтва новай дзяржавы, якая будзе называцца «эфэктыўнай дзяржавай».

І эфэктыўнасьць тая павінна заключацца ва ўсё ўзрастаючай ролі і значэньні дзяржавы, пашырэньні і ўзмацненьні яе функцыяў, пранікненьні ва ўсе сфэры жыцьця і дзейнасьці грамадзтва. Толькі такім шляхам, падкрэсьліваецца ў пасланьні, можна дабіцца росквіту эканомікі, высокага дабрабыту, выхаду з крызысу.

Між іншым, у гісторыі чалавецтва ёсьць нямала тэорыяў адносна дзяржавы, яе значэньня й ролі. Але, бадай, мудрэй за ўсіх вызначылі гэта марксісты-леніністы. Паводле іх тэорыі, дзяржава – ня што іншае, як орган насільля пануючай клясы. Таму, як усялякае зло, яна павінна адмерці. Толькі адбудзецца гэта не праз паслабленьне яе функцыяў, а наадварот, праз іх усямернае ўзмацненьне. Як вядома, так і рабілася ў савецкія часы.

Гаварылі і рабілі. Але ніхто ня думаў, што так хутка тэорыя пацьвердзіцца практыкай. Магутны і неперамożны маналіт, якім уяўляўся СССР, разваліўся, як калос на гліняных нагах. Сёньня той-сёй з гэтых гліняных чарапкоў спрабуе зьляпіць новае сутарэньне.

Былі ў гісторыі і дыямэтральна процілеглыя тэорыі дзяржавы. Напрыклад, адзін з найбольш выдатных прэзыдэнтаў Амэрыкі

## АД РЭДАКЦЫІ

Працяг са старонкі 1

**спэцыялістаў-мовазнаўцаў дактароў філялягічных навук, прафэсараў Паўла Сьцяцко, Генадзя Цыхуна, Браніслава Плотнікава і кандыдата філалагічных навук, дацэнта Паўла Міхайлава. Можна сабе ўявіць наколькі няпроста навукоўцам у сёньняшняй Беларусі бараніць «генэтыку з кібэрнэтыкай» ад грубага палітычнага ўмяшаньня.**

**Чым скончацца ўрэшце гэтая экспэртыза і гэты працэс? Зразумела, не кампрамісным новым правапісам беларускай мовы (выпрацоўка якога была запачаткаваная акадэмічнай канфэрэнцыяй 1992 году). Закрыцьцё або незакрыцьцё «Нашай Нівы» мала паўплывае на яе лёс, бо газэта будзе выходзіць, пакуль яе будуць чытаць.**

**Самым галоўным вынікам суда стане вынік сацыяльна-палітычны. Гутарка ідзе пра сёньняшні грамадзкі статус беларускае мовы. Альбо гэты статус упадзе яшчэ ніжэй, або апынецца ў полі зроку шырокага грамадзтва. Вось чаму пры ўсёй абсурднасьці гэтага гаспадарча-лінгвістычнага суда нам трэба яго выйграць. Нам — разам з вамі, хто падзяляе нашыя прынцыпы і каму дарагая беларуская мова (сёньня ўжо не вядзецца, у якім яе правапісным абліччы).**

**Таму мы, рэдакцыя «Нашай Нівы», заклікаем усіх нашых чытачоў і ўвогуле ўсіх сьведамых беларусаў — напішыце нам, ці патрэбная Вам такая газэта, такая мова і мова ўвогуле. Калі Вы адгукнецеся на нашую просьбу хутка, ніякі суд ня зможа праігнараваць думку грамадзтва і адабраць у яго патрэбнае яму выданьне на патрэбнай яму мове.**

**Рэдакцыя «НН» вельмі разьлічвае на разуменьне й падтрымку з боку беларускага грамадзтва.**

**Наш адрас: 220050 Менск, а/с 537. «Наша Ніва» (Суд над беларускай мовай).**

# СУД НАД БЕЛАРУСКАЙ

***Міжнародны цэнтар супраць цэнзуры ARTICLE 19 5 жніўня распаўсюдзіў у сьвеце свой даклад «Беларусь: узноўлены ціск на прэсу сьведчыць аб далейшых рэпрэсіях». Ніжэй мы публікуем тэкст гэтага дакладу цалкам.***

«29 траўня Беларускі дзяржаўны камітэт па друку вынес папярэджаньне незалежнай газэце «Наша Ніва», заявіўшы, што «Наша Ніва» парушыла пункт артыкула 6 Закону «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», які сьцьвярджае, што ў сродках масавай інфармацыі «не дапускаецца скажэнне агульнапрынятых норм выкарыстоўваемай мовы». Як сказана ў папярэджаньні, «Наша Ніва» парушыла гэты пункт, ужываючы традыцыйную беларускую артаграфію, якая існавала ў 20-я гады, але была адмененая рэформай правапісу ў 1933 годзе. «Наша Ніва» падала апэляцыю ў Вышэйшы Гаспадарчы суд з патрабаваньнем адмяніць папярэджаньне, абгрунтаваньні якога, як лічыць газэта, ня маюць дастатковай моцы. Суд павінен разгледзець апэляцыю «Нашай Нівы» 12 жніўня. Старшыня Дзяржаўнага камітэту па друку зазначыў, што калі «Наша Ніва» не прыслухаецца да папярэджаньня, то камітэт мае ўсе паўнамоцтвы, каб перадаць справу ў суд. Такія захады могуць прывесьці на пэўным этапе да закрыцьця газэты. Да таго ж, Дзяржаўны камітэт па друку ўпаўнаважаны ажыцьцяўляць або адмяняць рэгістрацыю газэт ды іншых пэрыядычных выданьняў, безь якой яны ня могуць выходзіць у сьвет.

### СУТНАСЬЦЬ ПРАБЛЕМЫ

«Наша Ніва», паводле яе самавызначэньня, — гэта незалежны сацыяльна-палітычны і культурны дэмакратычны тыднёвік і адзіная незалежная газэта, якая цалкам друкуецца на беларускай мове. Наклад газэты каля 5.000 асобнікаў. Газэта «Наша Ніва» была заснаваная ў 1906 годзе і карысталася вялікім попытам у пару культурнага адраджэньня, якое працягвалася падчас пасьлярэвалюцыйнага ўздыму 20-х гадоў. У 1991 годзе, у канцы савецкай эпохі, калі Беларусь стала незалежнаю дзяржаваю, выданьне «Нашае Нівы» было ўзноўленае. Газэта арганізацыйна спалучаная зь іншымі культурніцкімі установамі, такімі, як выдавецтва і Архіў найноўшае беларускае гісторыі. Яна прапагандуе беларускую мову, культуру, нацыянальны суверэнітэт і выкарыстоўвае традыцыйны беларускі правапіс «тарашкевіцу», які ўжываўся у 20-я гады.

У звароце да грамадзкасьці, які «Наша Ніва» выпусьціла, атрымаўшы папярэджаньне, сымбалічная значнасьць традыцыйнае формы мовы, што выкарыстоўваецца газэтай, прыроўніваецца да значнасьці нацыянальнага бел-чырвона-белага сьцяга і беларускага герба «Пагоня», у той час як правапіс 33-га году атаесамляецца з сымбалямі савецкай эпохі.

Паводле Канстытуцыі 1994 году беларуская мова мела статус дзяржаўнае мовы (з неабмежаваным выкарыстаньнем расейскае мовы як мовы «міжнацыянальных зносінаў»). Адпаведна рэвізаванай Канстытуцыі, прынятай у спрэчных акалічнасьцях пасьля рэфэрэндуму 1996 году, беларуская і расейская мовы атрымалі роўны статус як афіцыйныя. На працягу наступных 4-х гадоў афіцыйная дзяржаўная сымболіка таксама была зьмененая: нацыянальныя сьцяг і герб, прынятыя па атрыманьні незалежнасьці ў 1991 годзе, былі замененыя на сымболіку, якая ўжывалася ў Беларусі як адной з рэспублік Савецкага Саюзу. Прэзыдэнт Лукашэнка ўчыніў шэраг мэтанакіраваных захадаў дзеля паўторнага злучэньня ці шчыльнейшай сувязі з Расеяй. Гэтыя захады выклікаюць рашучы пратэст тых, хто бачыць у іх рэтраграднае імкненьне да аднаўленьня структураў былога Савецкага Саюзу і хто верыць, што будучыня Беларусі — у ейнай незалежнай сувэрэннай дзяржаўнасьці.

Артыкул 6 Закону «Аб друку» не вызначае, што такое «агульнапрынятая норма» мовы, якую належыць ужываць сродкам масавай інфармацыі. Але папярэджаньне Дзяржаўнага камітэту па друку спасылаецца на правілы, усталяваныя рэформай правапісу 1933 году. Гэтая рэформа была зацьверджаная дэкрэтам Савету народных камісараў Беларускай ССР. Пазьней, у 1957 годзе, Савет міністраў выдаў дэкрэт «Аб удакладненьні і частковых зьменах існуючага беларускага правапісу», які прадугледжваў абавязковае выкарыстаньне гэтых правілаў у адукацыйнай сыстэме, але дзе нічога не было сказана наконт сродкаў масавай інфармацыі. Палажэньне артыкулу 6, на падставе якога грунтуецца папярэджаньне «Нашай Ніве», было ўведзенае папраўкай, якая ўступіла ў сілу ў студзені 1998 году і стала першым заканадаўчым палажэньнем, якое абавязвае прэсу выкарыстоўваць зацьверджаную форму мовы.

Каб дадаць свайму папярэджаньню важкасьці, Дзяржаўны камітэт па друку спаслаўся на знаходкі пэўнага акадэміка, які зрабіў лінгвістычны аналіз аднога нумару газэты. Паводле аналізу акадэміка, форма мовы, якую ўжывае «Наша Ніва», можа «садзейнічаць пашырэнню непісьменнасці ў асяроддзі карыстальнікаў беларускай мовы». Ён таксама лічыць выкарыстаньне гэтае формы мовы «недапушчальным з маральна-этычнага пункту погляду», намякаючы, што ёю карысталіся фашыстоўскія калябаранты падчас нямецкай акупацыі 1941-44 гг. У аналізе акадэміка гэтаксама прысутнічаюць крытычныя заўвагі наконт яўнай «палітычнай арыентацыі» ў разгледжаным нумары газэты.

У чэрвені 1998 году, пасьля вынясеньня папярэджаньня «Нашай Ніве», Нацыянальны Сход прыняў новы Закон аб мове, падпісаны прэзыдэнтам 17 ліпеня. У артыкуле 27 гэтага Закону ёсьць спэцыяльнае палажэньне аб мове, ужыванай у сродках масавай інфармацыі: «(1) Мовай сродкаў масавай інфармацыі... можа быць беларуская і/альбо расейская, а таксама мовы іншых нацыянальнасьцяў, прадстаўнікі якіх пражываюць на тэрыторыі рэспублікі. (2) У сродках масавай інфармацыі не дазваляецца скажэньне агульнапрынятых нормаў мовы». Што ж да Закону «Аб друку», то папраўка да артыкула 6, якая патрабуе ад сродкаў масавай інфармацыі прытрымлівацца агульнапрынятай формы мовы, зьяўляецца адной з цэлага шэрагу абмежавальных папраўак, якія ўвайшлі ў сілу ў студзені 1998 году (дэталі гл. у дакладзе Міжнароднага цэнтру супраць цэнзуры ARTICLE 19 за травень 1998 году пад назвай «Пятля зацягваецца»). Сярод шматлікіх іншых папраўак — палажэньні, якія пашыраюць абсяг сумнавядомага артыкула 5, у якім прадугледжваецца шэраг абмежаваньняў зьместу матэрыялаў, што могуць быць апублікаваныя, і ўвядзеньне стражэйшых патрабаваньняў дзеля рэгістрацыі. Закон

сп. Джэфэрсан, таксама ў пэрыяд «дзікага рынку», гаварыў: «Самы лепшы той урад, які менш за ўсё кіруе».

Канечне, ва ўмовах «ізмаў» такую тэорыю трэба лічыць абсурдам. Аднак гэта не перашкодзіла той самай Амэрыцы стаць самай багатай, самай дэмакратычнай, самай магутнай дзяржавай.

Тым ня меней, няхай жыве «эфэктыўная дзяржава» сувэрэннай Рэспублікі Беларусь. Чым чорт не жартуе, можа зь цягам часу абойма вялікіх правадыроў працоўных сьвету «К. Маркс, Ф. Энгельс, У. Ленін» дапоўніцца новым імем.

Ну а мы, сьмяротныя, як пяецца ў той папулярнай песьні «... перажывем, перажывем», і ў нас усё будзе, як у людзей.

**Яфім Івановіч, вэтэран вайны і працы, Менск**

—

*Шаноўная рэдакцыя!*

Маю жаданьне выказаць пэўныя меркаваньні, што да новых цікавых тэмаў «НН». Першая прапанова выдавецтву «Наша Ніва» – як спадарства прымае праект выданьня падручніка беларускай мовы лацінскім альфабэтам? Нашая моладзь апантана шчыруе на ніве набыцьця ведаў замежных моваў. Зараз гэта робіцца знакам часу, і гэтак будзе й надалей. Навучаньне адбываецца пераважна эўрапейскім мовам. Уся Эўропа паслугоўваецца лацінкай. Мусім нават дадаць – лацінка ёсьць адным з сымбаляў Эўропы. Варта, мусіць, і нам паспрабаваць пайсьці ў Эўропу, менавіта праз нашую беларускую мову, лацінкаю. Гэты падручнік, так бы мовіць, стаўся б паходняй на шляху да волі. Улічваючы, што прапанаваны праект яшчэ не распрацоўваўся ніколі досыць сур'ёзна, вы маеце шанец быць першымі.

Іншая прапанова грунтуецца на традыцыях дарэвалюцыйнае газэты «Наша Ніва». Чытачы дасылалі навіны беларушчыны з усяе Беларусі, вялікіх местаў і маленькіх сёлаў, менавіта адтуль, адкуль і рухалася хваля новага жыцьця. Мяркую, гэтую старонку жыцьця газэты варта аднавіць. Магчыма, у іншай форме, але, лічу, сэнс у гэтым ёсьць.

Наступны момант маіх прапановаў палягае, як мне падаецца, у дарэмна пахаваным праекце – асобны нумар газэты прысьвячаўся якому-кольвек беларускаму месту. Пасьля нумароў пра Вільню, Віцебск, Гомлю, Магілёў праект спыніўся. А шкада! У Беларусі процьма местаў, вартых такіх нумароў – Ворша, Полацак, Горадня, Нясьвіж, Наваградак, Слонім, Берасьце. А беларускія месты, воляю лёсы адхінутыя ў замежжа – Смаленск, Дзьвінск, Беласток, Вільня, Невель ды іншыя. Інфармацыю пра іх, магчыма, дадуць рэдакцыі чытачы газэты – месьцічы гэтых местаў.

**Уладзімер Аніськевіч, Баранавічы**

—

*Шаноўная рэдакцыя газэты «Наша Ніва»!*

Далучаюся да той падтрымкі, якую выказваюць чытачы ў сваіх лістах. Вашае цяперашняе супрацьстаяньне расейска-савецкаму акупацыйнаму рэжыму заканамернае й цалкам натуральнае. Іншага й быць не магло. Так звычайна дзейнічае любая акупацыйная ўлада, якая праз гвалт, хлусьню й цынізм хоча пасеяць спачатку зьдзіўленьне й незадавальненьне, а потым гнеў, нянавісьць і роспач. Таму хачу пажадаць чытачам спакою й вытрымкі, а рэдакцыі – плённай працы ў выбраным накірунку. Прашу толькі аб адным. Не спыняйце выданьне газэты. Калі «Наша Ніва» будзе забароненая (а ўсё йдзе менавіта да гэтага), дык аднавіце яе выданьне ў Вільні, каб затым распаўсюджваць у Беларусі. Бо толькі сьвежы нумар «Нашай Нівы» будзе тым дастойным адказам на гвалт і ўціск існуючага рэжыму. Зыходзячы з гэтых меркаваньняў, дасылаю вам ксэракопію падпіснога квітка на другое паўгодзьдзе 1998 году з адрасам.

**З павагаю, Уладзімер Губскі, палачанін**

—

*Паважаная рэдакцыя!*

Прагляваючы кнігу «Гісторыя Беларусі. Дапаможнік для паступаючых у ВНУ», я паступова дайшоў да артыкула Л. А. Жылуновіча «Вызваленьне Беларусі ад нямецка-фашыстоўскіх захопнікаў. Заканчэньне другое сусьветнае вайны». Ня буду засяроджваць увагу на гэткіх «пэрлах», як «прдпрыемствы» ці высьвятляць «вынікі пачаўшайся адлігі». Тым болей ня варта паглыбляцца ў роздум дзеля адказу на пытаньне: калі Мазыр стаў «Мозырам»? Усе мы гэта ведаем. Лепей я распавяду пра тое, чаго мы ня ведаем.

Раней гэта было невядома, цяпер жа мы добра абазнаныя, што з «мэтай аднаўленьня народнай гаспадаркі рэспублікі саюзны ўрад ужо восеньню 1943 году перадаў Беларусі значныя грашовыя сродкі, 1 тыс. станкоў, 2 тыс. т. мэталу, 1542 трактары, шмат леса, СЬЦЯКЛА і інш.» Гэта ж сэнсацыя! Не, ня тое, што ў нас катастрафічна не хапала «леса» (напэўна, фашысты ўсе лясы эвакуявалі ў Нямеччыну), а тое, што некалі добрая Масква паслала нам «сьцякла». Напэўна ж, гэты ўчынак быў вызначальным падчас аднаўленьня «народнае гаспадаркі» Беларусі. Набліжаецца восень 1998 году і слаўная дата – 55 гадоў, як саюзны ўрад паслаў у разбураную вайной БССР «сьцякло». Таму будзе з нашага боку па-сяброўску й па-чалавечы, калі мы аддзячым. Як? А чаму б нам не назваць Шклоў «Сьцякловам»? Тады адразу двух зайцоў заб'еш і гэтым самым пакладзеш канец спэкуляцыям на назве гораду. «Сьцяклоў» – гэта гучыць горда!

Напэўна, гэта гучыць гэтаксама «горда», як і слова «вучэбнік», за ўвядзеньне якога ва ўжытак мы абавязаныя не Дземянцею й не таму, пра каго вы падумалі, а В. І. Менькоўскаму, аднаму з аўтараў «Дапаможніка для паступаючых у ВНУ» па гісторыі Беларусі. Гэтая кніжка дапаможа вам адным разам вывучыць і беларускую мову. А калі вас бянтэжаць «вучэбнікі» і «сьцякло», узгадайце незабыўнага Кандрата Крапіву. Дзякуючы яму мы даведаліся пра існаваньне ў беларускай мове «белак» і «карандашоў». Адкуль жа яны ўзяліся? Кандрат Кандратавіч тлумачыць, што так кажуць у ягонай роднай вёсцы Нізок на Узьдзеншчыне. Як гавораць там, гэтак павінны казаць і пісаць па ўсёй Беларусі. Так што, лічыце, што ўсё шкло мы прадалі Захаду (ці фашысты вывезьлі), вавёркі вымерлі, алоўкі сьпісаліся, а нам застаецца чытаць як мага болей «вучэбнікаў» і езьдзіць на Узьдзеншчыну, у Нізок.

P. S. Захочаце наведаць у дадатак Шклоў і будзеце ехаць праз Магілёў, сьцеражыцеся. На магілеўскім вакзале лепей не карыстайцеся «камэрамі хаваньня», калі ня хочаце раней часу справіць хаўтуры па сваіх валізках і торбачках.

**Віктар Мухін, Менск**

—

*Shanounaja redakcyja «Nashaj Nivy»,*

pishu Vam dziunaj, na piershy pohlad, lacinkaj, ale takaja hrafika, z adnaho boku, – heta pakul shto tolki prapanova, z druhoha – vymoha Internetu. Ci nia usie my, xto pa-bielarusku ublytvajecca u susvietnaje pavuchynnie, vymushanyja kozhny na svoj lad pierajnachvac' napisannie, xoc' usio adno vyhladaje niagiegla.

A mozha tut jakraz i josc' prosty adkaz na nashaje zablytanaje mounaje pytannie? Maulau, nie bylo b shchascia, dy niashchascie dapamahlo. I bielaruskaja mova, prahnuchy vyzhyvannia, sama styxijna vyrablaje nashymi rukami svajo ablichcha – u nashyx e-mailavyx pierapiskax?

Davajcie davierymsia hetaj styxii.

Niama sumnievu, shto praz karotki chas Internet zojdzie u kozhnuju xatu. Niama sumnievu, shto universalnaj movaj Internetu (i servisu) josc' i budzie english. Niama sumnievu, shto nam z nashaj movaju treba vyzhyc'. Niama sumnievu, shto lacinizacyja bielarushchyny – heta znak zhyccia, a nia smierci. Adrozniennie narkamauki i tarashkievicy – zanadta niaznachnaje, kab pieraxod na tarashkievicu stausia takim znakam dla usiaho narodu. Estetyka tarashkievicy mozha cieshyc' paetau i movaviedau, ale jana nie harantuje dla movy buduchyni. A lacinka – hrafika cyvilizavanaha pieradavoha svietu – papularnaja u nas najpiersh siarod moladzi, jakaja sionnia aktyuna vyvuchaje eurapiejskija movy.

Bielaruskaja lacinka, jakuju my viedajem z historyji, maje niekalki varyjantau i zusim nia maje zhyvoje tradycyji. Heta dazvalaje nam davierycca vymoham buduchyni i stvaryc' zusim novy varyjant. Pry hetym my nia budziem muchycca z dyjakrytykami i kadziroukami, jak muchajucca sionnia amal usie movy z zhyvoj lacinkavaj tradycyjaj. My adrazu z'aryjentujemsia na english i zrobim hrafiku, nie padobnuju ani da rasiejskaj, ani da polskaj.

My admovimsia ad fanetychnaha pryncypu «jak havorycca, tak i pishacca», jaki pieratvaryu bielaruskaje napisannie u navuchalnuju transkrybcyju i u pryncypie pazbaviu pravily vymaulennia jakoj-kolviek samastojnaj vazhnasci.

Davajcie nie chaplacca za darahija nam ruiny. Tym bolsh, shto jany nikudy nia dzienucca. Davajcie dumac' pra zautrashni dzien' bielarushchyny.

Dadam, shto toj varyjant lacinki, jakim napisany hety list, nie prydumany mnoju. Jon – jashche davoli hruvastki – naradziusia i shtodnia daskanalicca u Internecie styxijna. I heta josc' sviedchannie zhyvoje kamunikacyi pa-bielarusku.

**Ales' Kachan, Miensk**

# МОВАЙ

прадугледжвае закрыцьцё газэты ў выпадку «шматразовых парушэньняў» артыкула 5.

Яшчэ перад увядзеньнем дадатковых абмежаваньняў у папраўках студзеня 1998 году, у лістападзе 1997 году Вышэйшым гаспадарчым судом за нібыта «парушэньні» артыкула 5 была зачыненая газэта «Свабода» (дадатковую інфармацыю гл. у дакладзе ARTICLE 19 за травень 1998 году). Шэраг іншых выданьняў таксама атрымалі афіцыйныя папярэджаньні за нібыта парушэньні гэтых палажэньняў. «Наша Ніва» атрымала два такія папярэджаньні з Генэральнай пракуратуры ў траўні 1997 году за публікацыю наступнага: 1. Велікоднае пасланьне беларускаму народу ад Мітрапаліта Беларускае аўтакефальнае праваслаўнае царквы (адгалінаваньне царквы, якое не прызнаецца на афіцыйным узроўні), што нібыта «распальвае міжканфэсійную варожасьць»; 2. Артыкул гісторыка пра зьнішчэньне савецкімі партызанамі цывільнага насельніцтва падчас Другой сусьветнай вайны, што нібыта ёсьць «замахам на гонар і годнасьць грамадзянаў», хаця, як цьвердзяць у газэце «Наша Ніва», апублікаваныя факты былі пацьверджаныя ў КГБ.

## МІЖНАРОДНЫЯ НОРМЫ АБАРОНЫ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

Папярэджаньне, вынесенае газэце «Наша Ніва», ці кожны падобны крок, які можа быць учынены ўладамі, каб накласьці такога кшталту абмежаваньне на свабоду слова для незалежнае газэты, зьяўляецца яўным парушэньнем абавязкаў Беларусі ў рамках міжнародных пагадненьняў аб правах чалавека, а менавіта абавязкаў Беларусі як дзяржавы-ўдзельніцы Міжнароднага пакту грамадзянскіх і палітычных правоў, які яна падпісала ў 1973 годзе.

Артыкул 19 (2) Міжнароднага пакту сьцьвярджае: «Кожны мае права на свабоднае выказваньне сваёй думкі; гэтае права прадугледжвае свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць любога роду інфармацыю і ідэі, незалежна ад дзяржаўных межаў, у вуснай, пісьмовай ці друкаванай форме, пры дапамозе мастацкіх сродкаў альбо любых іншых сродкаў на ягоны выбар». Абмежаваньне, якое забараняе недзяржаўным сродкам масавай інфармацыі, іншым установам ці прыватным асобам ужываць мову і форму мовы на іхны выбар, яўна парушае гэтае палажэньне. Хаця ўрады шэрагу краінаў дзеля практычных мэтаў вызначылі афіцыйную форму мовы для ўжываньня ў дзяржаўных органах і афіцыйных установах, любое падобнае абмежаваньне, накладзенае на недзяржаўную ўстанову, зьяўляецца відавочным парушэньнем міжнародна абароненага права на свабоду слова.

Камітэт ААН па правах чалавека, орган, заснаваны паводле згаданага Пакту дзеля назіраньня за выкананьнем дзяржавамі сваіх абавязкаў у межах гэтай Дамовы, разглядаў пытаньне аб свабодзе слова і мовы ў 1993 годзе, слухаючы справу паводле пазыску англамоўных жыхароў пераважна франкамоўнай часткі Канады наконт парушэньняў Артыкула 19. Камітэт зрабіў наступную агульную выснову: «(а) дзяржава можа выбраць адну ці болей афіцыйных моваў, але яна ня можа выключаць па-за дзяржаўнай сфэрай свабоды самавыразу на мове паводле выбару асобы».

Зразумела, што свабода самавыразу на абранай мове ўключае ў сябе і абраную форму мовы. Абмежаваньні, якія перашкаджаюць газэце «Наша Ніва» і яе чытачам ажыцьцяўляць камунікацыю на абранай мове і абранай форме мовы, зьяўляюцца грубым парушэньнем вышэйзгаданых міжнародных абавязкаў. Хаця Артыкул 19 (3) Міжнароднага пакту дазваляе некаторыя абмежаваньні свабоды слова, дазволеныя абмежаваньні вельмі сьцісла вызначаныя і мусяць строга адпавядаць тром патрабаваньням:

Па-першае, абмежаваньне павінна быць прадугледжана законам. Эўрапейскі суд па правах чалавека, камэнтуючы падобнае палажэньне ў Эўрапейскай канвэнцыі, пастанавіў разумець яго такім чынам, што абмежаваньне павінна быць «адэкватна ўспрымальным» і прадказальным, г.зн. «сфармуляваным з дастатковай дакладнасьцю, каб даць магчымасьць грамадзяніну паводзіць сябе адпаведна».

Па-другое, абмежаваньне павінна служыць адной з наступных мэтаў, прадугледжаных дамовай, а менавіта: павазе да правоў і рэпутацыі іншых; абароне нацыянальнай бясьпекі ці грамадзкага парадку; абароне грамадзкага здароўя і маралі.

Па-трэцяе, любое абмежаваньне павінна быць неабходным (альбо, кажучы словамі Эўрапейскай канвэнцыі, «неабходным у дэмакратычным грамадзтве»). Эўрапейскі суд вызначыў, што паняцьце «неабходнасьці» прадугледжвае даказальную «пільную сацыяльную патрэбу», што абмежаваньне павінна быць сувымернае зь легітымна апраўданаю мэтаю і што апраўдваць абмежаваньне мусяць адпаведныя і дастатковыя матывы.

Усе тры пералічаныя патрабаваньні павінны быць вытрыманыя разам, каб любое асобнае абмежаваньне адпавядала нормам міжнароднага права. Больш за тое, Камітэт ААН па правах чалавека у сваім Агульным камэнтары да Артыкула 19 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах вызначыў, што «калі дзяржава-ўдзельніца ўводзіць пэўныя абмежаваньні на выкананьне свабоды слова, гэтыя абмежаваньні ня могуць паддаваць небясьпецы самое права свабодна выказвацца».

Аргумэнты, якімі абгрунтоўваецца патрабаваньне ўладаў да газэты «Наша Ніва» прытрымлівацца афіцыйнага правапісу, ні ў якім разе не адпавядаюць гэтым крытэрам.

## РЭКАМЭНДАЦЫІ ЎРАДУ БЕЛАРУСІ

Дзяржаўны камітэт па друку павінен адклікаць сваё папярэджаньне газэце «Наша Ніва», абгрунтаванае названымі матывамі. Беларускія ўлады не павінны рабіць ніякіх іншых крокаў, зараз ці ў будучыні, каб прымусіць газэту «Наша Ніва» прыняць тую ці іншую форму мовы ці караць яе за выкарыстаньне формы мовы, афіцыйна не прызнанай. Урад павінен перагледзець артыкул 6 Закону «Аб друку», а таксама зрабіць істотны перагляд шматлікіх іншых палажэньняў гэтага Закону, каб прывесьці Закон «Аб друку» ў адпаведнасьць зь міжнароднымі абавязкамі Беларусі па правах чалавека, якія беларускі ўрад афіцыйна паабяцаў выконваць у сваёй заяве Камісіі ААН па правах чалавека ў красавіку 1998 году (дэталі гл. у дакладзе ARTICLE 19 за травень 1998 году).

# МЯККІ ЗНАК

**Зьміцер Бартосік**

«Ну растлумач мне, калі зможаш, сэнс напісаньня вашага мяккага знаку паміж двума зычнымі, — пацьвельвала мяне адна дасьведчаная журналістка, — ці, хаця б, прачытай мне слова «адраджэньне» ў розных варыяцыях. Толькі каб я адчула розьніцу. Вось расейцы ж адмянілі пазначэньне цьвёрдасьці на канцы словаў».

А як сапраўды вытлумачваць тое, чаго нельга адрозьніць на слых? Што ніяк ня хоча паддавацца лягічнаму абгрунтаваньню ды «цьвярозаму» падыходу да праблемы. Ды і ў чым, уласна кажучы, праблема? Прыбраць нахабны знак ад уладарных вачэй ды й жыць далей? Як гэта зрабілі «нармальныя» газэты. Вось толькі зь дзеясловам «жыць» паўстаюць новыя праблемы. Калі браць яго ў самым наўпроставым сэнсе, дык колькі ж ненармальных аддало перавагу на карысьць дзеслова «памерці». Вядома, людзі аддавалі жыцьці за свабоду, за радзіму. Вось толькі, што ж стаіць за гэтымі прыгожымі словамі? Дзеля якога-такога сэнсу аддаваць тое, што даецца табе адзін раз і больш ніколі не паўторыцца. Дзеля мілых краявідаў любае зямлі, у якую ўсё роўна ляжаш не гаспадаром? Дзеля роднага народу, які хутчэй за ўсё забудзецца й на тваю магілу, і на тое, чым ты жыў? Ці дзеля родных і блізкіх, каму ад твайго сыходу лягчэй ніяк ня будзе? Напэўна, толькі дзеля сябе. Толькі там і хаваецца і твая радзіма, і твая свабода, і ўсё тое, што нельга вытлумачыць цынічнаю лексыкаю быцьця. Агучыць гучнымі словамі.

Мяне вельмі ўсьцешвае той факт, што тыя, хто сёньня кіруе сваім балем на гэтай зямлі, разумеюць тое, чаго ніяк ня можа ўцяміць мая прагрэсіўная знаёмая. Што той мяккі знак паміж зычнымі азначае ніякую ня мяккасьць. Што нават адно, дакладней, тым больш адно выданьне з тою стрэмкаю ня можа, не павінна жыць у прасторы панаваньня гукаў і словаў, якія можна адно толькі пачуць. Але, як гэта ні дзіўна гучыць, мне здаецца, што надзея тым большая, чым танчэйшая нітка, на якой яна да гэтае пары трымаецца.

# «Я – беларус, а гэта небясьпечна...»

## *Аляксей Шыдлоўскі: год за кратамі*

Яго арыштавалі ў родных Стоўбцах 16 жніўня. З таго часу безьліч разоў маглі б выпусьціць. Апошні раз такое рашэньне магло быць прынятае 30 ліпеня... За тры дні да гэтага ён разам зь іншымі вязьнямі ўстановы на Кальварыйскай, 36 у Менску сьвяткаваў «Independence Day». Кава, чыфір ды «сьпяцом» назапашаны дэлікатэс — шакаляд...

Шыдлоўскі, здаецца, ня вельмі верыў, што яго вызваляць датэрмінова. Калі казаць юрыдычна правільна —»умоўна-датэрмінова». Няхай і «ўмоўна», але ж з-за плоту, пакідаючы ззаду гэты «ўзмоцнены рэжым», на волю ступаеш рэальна! Але яму ніяк не прыходзіла вера ў фатальнасьць гэтага — што ў верасьні, пасьля ўсіх фармальнасьцяў, на ганку ўстановы УЖ 15/1 яго ўжо сустрэнуць сябры...

Усё, зьвязанае са словамі «воля» альбо «датэрміновы» для Аляксея мела рэальныя прыкметы ўмоўнасьці. Нават права асуджанага на зьмякчэньне пакараньня, агаворанае, як і ўмовы гэтага зьмякчэньня, у Крымінальным Кодэксе РБ. Згодна зь ім, пакараньне не зьмякчаюць а ргіогі толькі тым, хто асуджаны за злачынства зь ліку найбольш цяжкіх. Астатнія, пры ўмове сумленнага стаўленьня да працы і ўзорных паводзінаў, шанец маюць. Пры гэтым раней нясуджаныя, а таксама асуджаныя на тэрмін менш за тры гады мусяць адбыць спачатку палову тэрміну. Уласна, менавіта пад гэты пункт і трапляе фармальна выпадак Аляксея Шыдлоўскага. Ён за кратамі фактычна ўжо дзьве трацiны адмераных судом 1,5 гадоў. Дзьве трацiны, дарэчы, кодэкс прадпісвае адбыць, каб мець права і шанец на волю, не такім, як ён, асуджаным за надпісы на сьценах! А — раней судзімым. Альбо нясуджаным раней, але якія цяпер атрымалі больш за тры гады...

Што такое «злачынства» Аляксея — увесь сьвет добра ведае. І калі Аляксею прапанавалі далейшыя паўгады калёніі «зьмякчыць», зьмяніўшы ўзмоцнены рэжым на «хімію», ён адмовіўся, паставіўшы пытаньне рубам: альбо Воля — альбо турма.

Падобнае ж пытаньне паставілі і праваабаронцы зь «Вясны-96». Яны ініцыявалі разгляд магчымасьцяў ягонага, Аляксея, вызваленьня. Цяпер ён ужо дакладна па ўсіх кодэксах меў на яго права! 30 ліпеня камісія па ўмоўна-датэрміновым вызваленьні разгледзела і... усё засталося па-ранейшаму. Прычынаў адмовы так і не патлумачылі.

У кожным атрадзе кожнай калёніі ёсьць свой начальнік —»атрадны». Начальнік 21-га атраду, знакамітага ў УЖ 15/1 адной ужо наяўнасьцю ў ім Аляксея Шыдлоўскага, напісаў для камісіі характарыстыку пра «хітрага», «помсьлівага», «вываротлівага», «злапамятнага» вязьня. Якія там ужо, маўляў, «узорныя паводзіны»? Які «шлях выпраўленьня»? «Сумленнае стаўленьне да працы» — яго таксама абвяргала меркаваньне «атраднага»... Але ёсьць зьвесткі з дакладных крыніцаў, што кожны ў калёніі добра ведае аб «палітычным» статусе Шыдлоўскага. Мала за тое — шмат хто «ведае» пра ягоны лёс і прычыны ягоных паваротаў больш, чым сам Аляксей. Яго асобу суправаджае мноства плётак, дзе зьмяшаліся неразуменьне і неінфармаванасьць адных і жаданьне іншых дэзінфармаваць, каб «адпавядаць палітычнаму моманту». Прыкладам, зь нечае ласкі ў калёніі пачалі верыць, нібыта за кожны дзень зьняволеньня Аляксею Шыдлоўскаму «капае» на рахунак у банку (!). Тым часам родныя Аляксея ня маюць грошай, каб выпісаць яму некаторыя газэты.

Аляксей, які сам марыць стаць журналістам і быў выключаны з журфаку выключна з-за зьняволеньня, не жадае расставацца з гэтай прафэсіяй і за кратамі. Начальству прыйшлося не даспадобы тое, што ён стаў дасылаць нататкі ў незалежную прэсу. Падпісаўся: «Аляксей Шыдлоўскі, пазаштатны карэспандэнт у калёніі №1 г. Менску». Начальству хапае турботаў, што шмат пішуць аб ім самім, і ўсе ведаюць: гэта «той самы Шыдлоўскі». І яму — у калёнію — пішуць. Хоць, на думку самога Аляксея, няшмат: «У сярэднім адзін ліст на дзень». Як і ў жыцьці, па той бок турэмнага плоту «насельніцтва» падзяляецца на дзьве ўмоўныя часткі: «люмпэны» і тыя, хто чытае разам з Шыдлоўскім незалежную прэсу, вывучае па ёй беларускую мову... Дарэчы, усе разам яны дружна не разумеюць, за што Аляксей сядзіць. За «нейкія надпісы»? У іх гэта ня ўкладваецца ў галаве.




Прызнацца, некалі зьвестка пра паэтычную творчасьць Аляксея Шыдлоўскага сталася для мяне — чамусьці — поўнай нечаканасьцю. Калі сустрэкалі ў сакавіку на ганку менскага горсуда другога палітвязьня — Вадзіма Кабанчука, ён прачытаў тры радкі, напісаныя Аляксеем перад вынясеньнем ім з Лабковічам прысуду:

*Вось і ўсё – на Волю шпацырую!*
*Вось і ўсё – адкінутыя краты!*
*Вось і ўсё – паветра я адчую...*

Але з паветрам атрымалася інакш. 14 траўня Шыдлоўскі быў пераведзены ў калёнію на Кальварыйскую, дзе з рэштkамі вольнага паветра — ягонымі вершамі — усчалася вайна. Некалькі разоў яму пагражалі дадаць да тэрміну 3-4 гады —столькі, колькі не пашкадуць прэзыдэнцкія судзьдзі па артыкулах 67 і 68 КК РБ. За болем і шчырасьцю, каханьнем да Радзімы і да жанчыны наглядчыкам мроіцца толькі адно —»лёзунгі» і «заклікі» . Для іх самае страшнае — калі вязень сумленьня ня можа й ня хоча «выпраўляць» свае душу і сумленьне.

Мабыць, баючыся, што пры прачытаньні вершаў па-за турмой з нашым «кастытуцыйным людам» можа нешта здарыцца, іх нават забаранілі дасылаць на волю. Усё ж удалося здабыць сёе-тое з турэмных твораў Аляксея Шыдлоўскага. Некаторыя зь іх ён прысьвяціў сваёй жонцы Іне.

*Я – беларус, а гэта небясьпечна*
*Для ўлады, для яго, для гэтых,*
*Якія нас баяцца як агню!*
*Я – «сацыяльна небясьпечны»,*
*Дык што ж, лупіце, заклінайце,*
*Саджайце ў турму, катуйце*
*За тое, што казаў я праўду,*
*Што не хлушу, і што магу*
*Аддаць жыцьцё Радзіме без разваг я...*
*Я – ваш, я – «сацыяльна небясьпечны»,*
*Судзіце!*
*Зараз судны час.*

Да вызваленьня Аляксея Шыдлоўскага з турмы застаецца 191 дзень. З усіх палітычных зьняволеных Беларусі лукашэнкаўскага часу Шыдлоўскі правёў за кратамі на сёньня найболей.

**Тацяна Сьнітко**

# У рэгістрацыі адмоўлена

***26 красавіка 1996 году ў Менску адбыўся ўстаноўчы зьезд новага грамадзкага аб'яднаньня — Беларускай Асацыяцыі Вязьняў лукашэнкаўскага рэжыму, на якім быў прыняты Статут грамадзкага аб'яднаньня.***

Задачы Асацыяцыі відавочныя: аказаньне маральнай, матэрыяльнай і юрыдычнай дапамогі грамадзянам, якія пацярпелі ад палітычных рэпрэсіяў з 1994 году, падтрымка палітзьняволеных і іх сем'яў, дзейнасьць, скіраваная на папярэджаньне парушэньня правоў чалавека.

У вызначаны законам тэрмін Рада Асацыяцыі падала ў Міністэрства юстыцыі РБ дакумэнты на рэгістрацыю і 9 чэрвеня 1998 году атрымала паведамленьне «Аб адмове ў рэгістрацыі», падпісанае начальнікам упраўленьня грамадзкіх аб'яднаньняў М.Сухініным.

Міністар юстыцыі РБ Г.Варанцоў зацьвердзіў сваім подпісам падрыхтаванае галоўным спэцыялістам упраўленьня Станіславам Шляхто «Заключэньне па выніках разгляду матэрыялаў аб рэгістрацыі Беларускай Асацыяцыі Вязьняў лукашэнкаўскага рэжыму і яе сымболікі», у якім, у прыватнасьці, сьцьвярджаецца наступнае:

«Акрамя таго, Крымінальным кодэксам Рэспублікі Беларусь не прадугледжаная адказнасьць за палітычныя погляды і палітычную дзейнасьць. Статыстычная справаздача Рэспублікі Беларусь за 1994 — 1997 г. сьведчыць, што і за асоба небясьпечныя дзяржаўныя злачынствы да адказнасьці грамадзяне не прыцягваліся». Пасьля гэтых словаў у іншым дакумэнце, які мае назву «Даведка» і быў напісаны ад рукі (відаць, як і ў судах, у Мінюсьце часта псуюцца кампутар і друкарка) галоўспэцам С.Шляхто, ідзе наступны сказ:

«Пры такіх абставінах назва асацыяцыі не адпавядае яе статуту [...], бо нельга стварыць аб'яднаньне палітычных вязьняў, калі іх наогул няма [...]».

Такім чынам, Міністэрства юстыцыі РБ «адмяніла» фізычны й маральны зьдзек, які з 1994 году й да сёньняшняга дня зьдзяйсьняецца ў дачыненьні да тысячаў грамадзянаў па ўсёй Беларусі. Сьцёршы апошнія сьляды сумленьня, мінюстаўцы «адмянілі» нашыя пакуты ў «валадарках»,»амэрыканках» і КПЗ. Так вучні адмяняюць самі сабе ўрокі, хаваючыся ў школьнай прыбіральні.

Няхай ніхто не спадзяюцца, што мы забудзем, як ацэтонавым перагарам дыхала нам у патыліцу сьмерць, як пілі мы чыфір з тубэркулёзнымі, як нажнымі кайданамі прыкоўвалі нас да бальнічнага ложку, як кропельніца качала ў вены нашых рук выратавальную глюкозу, як шылі мы раты, каб магчы гаварыць, як сынілі мы брусьнічныя вусны нашых жанчын...

Да цытат з дакумэнтаў пад назвамі «Заключэньне...» і «Даведка» Мінюста РБ вельмі яскрава дапасуюцца наступныя вытрымкі з абвінавачага заключэньня па крымінальнай справе №182, падпісанай намесьнікам генпракурора Кандрацьевым 18 ліпеня 1996 году:

«14 февраля 1996 года Прокуратурой Республики Беларусь возбуждено уголовное дело по признакам преступления, предусмотренного ч.5 ст.17 и ст.63 УК Республики Беларусь. Основанием к возбуждению уголовного дела послужило стихотворение [...] «Убей президента».

Нагадаю, што артыкул 63 КК РБ (тэрарыстычны акт) адносіцца да асабліва небясьпечных дзяржаўных злачынстваў і прадугледжвае ў якасьці карных санкцыяў пазбаўленьне волі на тэрмін ад васьмі да пятнаццаці гадоў з канфіскацыяй маёмасьці альбо сьмяротную кару з канфіскацыяй альбо без канфіскацыі...

Рада Беларускай Асацыяцыі Вязьняў лукашэнкаўскага рэжыму падала ў Вярхоўны Суд РБ заяву-зыск пра абскарджаньне адмовы ў рэгістрацыі. 10 жніўня ў залі №63 Вярхоўнага Суда адбылося першае судовае пасяджаньне ў складзе: судзьдзя Вашкевіч, народныя засядальнікі Школьнікава і Кабанава, пракурор Давідоўскі, сакратар суда Айвазава. Адказчыкам ад Мінюста выступаў С.Шляхто. З боку зыскальнікаў былі выкладзеныя дастаткова важкія аргумэнты на карысьць таго, што Асацыяцыю неабходна рэгістраваць. Чыноўнік Мінюста заявіў, што ў Беларусі палітвязьняў няма, а слова «лукашэнкаўскага», якое выкарыстана ў назьве Асацыяцыі, суаднёс з прозьвішчам прэзыдэнта Лукашэнкі.

Заключнае судовае пасяджэньне адбылося 13 жніўня. У поўным аб'ёме былі выслуханы прамовы прафэсара Ю.Хадыкі, які зьяўляецца сябрам Рады Асацыяцыі, і законнага прадстаўніка аўтараў зыску адваката Гары Паганяйлы.

Пракурор Давідоўскі заўважыў прадстаўніку Мінюста, што той ужо ня першы раз ня можа прывесьці дастаткова пераканаўчых доказаў у падтрымку сваіх дзеяньняў, але падтрымаў адмову Мінюста ў рэгістрацыі грамадзкага аб'яднаньня.

У 17 гадзін 31 хвіліну судзьдзя Вашкевіч зачытаў пастанову Вярхоўнага Суда РБ. Дзеяньні Міністэства юстыцыі прызнаныя правільнымі, у зыску сябрам Рады Беларускай Асацыяцыі Вязьняў лукашэнкаўскага рэжыму адмоўлена.

**Славамір Адамовіч**

# ЛЕГЕНДАРНЫ АТАМАН

**Беларускі вызвольны рух у XX стагодзьдзі вылучыў з сваіх шэрагаў шмат выдатных палітычных дзеячоў, вайскоўцаў і партызанаў. Атаман Якуб Харэўскі – адна зь легендарных постацяў беларускага Рэзыстансу.**

Якуб Харэўскі (сапраўднае прозьвішча – Новік) нарадзіўся ў 1900 годзе ў вёсцы Харэва на Пружаншчыне. Маладым хлопцам на пачатку 20-х ён далучаецца да беларускае антыпольскае партызанкі, становіцца камандзірам партызанскага атрада ў Ружанскай пушчы. Відаць, тады ён і прымае псэўдонім: Харэўскі. Атрад ягоны ўваходзіў у 5-ю групу партызанскіх войскаў Беларускае Народнае Рэспублікі, а з 1923 г., калі згубілася сувязь, дзеяў самастойна. У той час, калі нацыянальная партызанка ў Белавескай пушчы была зьнішчаная палякамі, атаман Харэўскі пасьпяхова дзейнічае на Ружаншчыне. Побач, у Ліпічанскай пушчы і на Слонімшчыне, змагаліся атрады атаманаў Шаршня, Рудога і Іскры.

Атрад атамана Мухі (былога польскага вайскоўца Мухі-Міхальскага), найбольш вядомы сярод насельніцтва, быў захоплены чэкістамі Кірылы Арлоўскага, і ягонай дзейнасьцю пачало кіраваць ГПУ. Мухаўцы рабілі напады на палякаў у тых месцах, дзе знаходзіліся атрады Харэўскага і Рудога. Былі выпадкі, калі паліцыя, якая ішла па сьледу правёўшых акцыю людзей Арлоўскага-Мухі, ледзь не натыкалася на беларускія атрады, што выпраўляліся на апэрацыю.

Сяргей Хмара (атаман Іскра) ўспамінаў, што было «пастаноўлена навязаць сувязь і запрапанаваць (чэкістам – С. Ё.), каб іхны атрад ня соваў носу на абшары нашае дзейнасьці, або будзем змушаныя папрасіць іх гэтага зброяй. Спатканьне адбылося ў Сталавічах. Але атаман Муха не зьявіўся. Прыбыў ягоны «начальнік штабу» «Максім», як потым даведаліся, фактычны камандзір атрада чакіст Арлоўскі, і яшчэ адзін партызан. Ад нас быў атаман Харэўскі, Руды і я. Паясьніўшы сытуацыю, Харэўскі зажадаў, каб атрад Мухі ў сваёй дзейнасьці ня сьмеў пераходзіць на нашыя абшары, бо гэта пагражае небясьпекай для нашых атрадаў трапіць неспадзявана ў паліцыйныя аблавы. «Максім» было запрапанаваў «кардынацыю» дзейнасьці, бо ў іх ёсьць «штаб», які распрацоўвае апэрацыі і ўдоваль зброі. Ведаючы, што гэта за «штаб», мы ад такой каардынацыі адмовіліся і запрапанавалі прыняць падзел тэрыторыі дзейнасьці, або ім прыдзецца сустрэцца зь іншым спосабам нашага ўзьдзеяньня. Умова была зробленай. Атрад Мухі забавязаўся ў сваёй дзейнасьці не пераходзіць далей Віленска-Берасьцейскай чыгункавай лініі, з тым, што на Паўночна-Захад ад яе мае дзеяць нашая партызанка, а на Паўднёвы Ўсход іхная. Больш яны на нашых абшарах не зьяўляліся».

У 1925 годзе палякі здолелі зьнішчыць партызанскую групу атамана Шаршня, арыштаваць атамана Рудога зь ягонымі партызанамі. На Наваградчыне й Піншчыне спынілі сваю партызанку камуністы й чэкісты. Вакол атрада Якуба Харэўскага звужалася кола. Давялося атаману распусьціць атрад. Партызаны пачалі легалізавацца пад чужымі прозьвішчамі. Харэўскаму не пашанцавала – на ягоны сьлед выйшла польская паліцыя. Атаман вымушаны быў пад фальшывымі дакумэнтамі ўцякаць у БССР. Пакуль невядома, дзе ён там жыў і чым займаўся. Толькі ў 1937 г., ратуючыся ад масавых арыштаў НКВД, Харэўскі нелегальна вяртаецца ў Заходнюю Беларусь, хаваецца на Валыні.

Калі на пачатку 1939 году ў Баранавічах сабралася нелегальная канфэрэнцыя былых сяброў Беларускай сялянска-работніцкай Грамады, на яе быў запрошаны і атаман Харэўскі, бо зноў спатрэбіўся ягоны партызанскі досьвед. Грамадоўцы разам з былымі сябрамі КПЗБ рыхтавалі на выпадак нямецка-польскай вайны антыпольскае паўстаньне на Палесьсі. Мэтай было абвяшчэньне незалежнае Заходне-Беларускае Рэспублікі, на сталіцу якой спачатку плянаваліся Баранавічы, а пасьля –Пінск. Ужо 1 верасьня атаман Я. Харэўскі быў у лесе, дзе зьбіраў сваіх былых партызанскіх сяброў, вэрбаваў добраахвотнікаў. Пасьля аб'яднаньня паўстанцкіх сілаў, Якуб Харэўскі становіцца намесьнікам Галоўнага камэнданта Івана Тарасюка, а пасьля ягонай гібелі 16 верасьня пераняў камандаваньне паўстанцкімі сіламі (да 5000 чалавек). Менавіта атаман Харэўскі адмяніў штурм Пінска, які быў заплянаваны на 18 верасьня, і адвёў частку сваіх аддзелаў у лясы, бо ў Заходнюю Беларусь уварваліся бальшавікі...

Да пачатку нямецка-савецкай вайны Якуб Харэўскі знаходзіўся на нелегальным становішчы, хаваючыся ад НКВД, а пасьля прыйшлося хавацца ўжо ад нямецкіх акупантаў. Зноў палескія лясы і балаты далі надзейны прытулак сабранаму атаманам партызанскаму атраду. З часам аддзел Харэўскага стаў насіць імя казацкага атамана Нябабы. Дзейнічаў ён каля Пінска, Любяшова і Камень-Кашырска.

У ліпені-жніўні 1941 году атрад Я. Харэўскага, у складзе стыхійна паўсталае Беларускае самаабароны, удзельнічаў у сумеснай з Палескай Сечай УПА беларуска-украінскай антыбальшавіцкай вайсковай апэрацыі на Палесьсі. Пасьля таго, як нямецкія акупацыйныя ўлады паспрабавалі ўзяць беларускія аддзелы пад свой кантроль, многія атаманы іх або распусьцілі, або адвялі ў лясы. Ім было з каго браць прыклад, бо перад гэтым такі ж крок зрабіў Галоўны камандзір Палескай Сечы Украінскай Паўстанчай Арміі атаман Бульба-Баравец.

Тым часам патрыятычныя беларускія партызанскія аддзелы паўсталі ня толькі на Палесьсі, але й на Гарадзеншчыне. Паступова паміж імі наладжвалася сувязь, у гэтым шмат дапамагала падпольная арганізацыя «Беларуская Народная Грамада», якая паўстала ўвосень 1941-га й імкнулася ўзяць пад свой кантроль нацыянальны партызанскі рух. У чэрвені 1942 году на хутары пад Івацэвічамі адбылася 1-я канфэрэнцыя беларускіх партызанскіх атаманаў і дэлегатаў нелегальнай Грамады, на якой была ўтворана Лава атаманаў. Атаман Харэўскі быў абраны старшынёй гэтага каардыныцыйнага органу і ўвайшоў у выканаўчую «пятку» Грамады.

Нялёгка было арганізавацца, калі не хапала зброі, мэдыкамэнтаў і дасьведчаных камандзіраў. Калі па лясах хадзілі савецкія партызанскія атрады, чэкісцкія дывэрсійныя групы, польскія акоўцы. Нярэдка яны рабілі напады на беларускіх партызанаў. А адзіныя саюзьнікі – бульбаўцы ваявалі з бандэраўскай УПА й ім было не да «беларускіх братоў»... Увосені 1942-га на Палесьсі была скінутая дывэрсійная група капітана Топкіна з заданьнем падначаліць сабе беларускія атрады. Умацоўваліся мясцовыя савецкія партызаны, якія атрымоўвалі дапамогу з-за лініі фронту. Таму ў лістападзе 1942 году пад Целяханамі адбылася 2-я канфэрэнцыя беларускіх партызанскіх атаманаў, на якой была ўтворана «Беларуская Народная Партызанка». Начальнікам штаба аб'яднаных партызанскіх аддзелаў быў абраны былы савецкі афіцэр Іван Шанько, якому Лава атаманаў падвысіла рангу да палкоўніка.

Улетку 1943 году атрад Харэўскага знаходзіўся ў рэйдзе на Валыні (там нябабаўцы неаднаразова праводзілі сумесныя з бульбаўцамі акцыі супраць савецкіх і польскіх партызанаў), калі прыйшла вестка пра гібель палкоўніка Шанько, а таксама шэрагу іншых беларускіх камандзіраў. Яны былі па-зладзейску забітыя чэкістамі палкоўніка-дывэрсанта Лінькова. Каб захаваць свой атрад, Харэўскі вырашыў не вяртацца на апанаваную савецкімі партызанамі Піншчыну, а дысьлякуецца каля Ратна, Любяшова і Марочна.

Падчас адыходу немцаў атрад Харэўскага захоплівае ў Любяшове вялікія запасы зброі (нават мінамёты), адыходзіць на Берасьцейшчыну. На Бацькаўшчыну прыйшоў новы акупант –бальшавікі, таму нябабаўцы, папоўніўшы свае шэрагі, зноў актывізуюць свае баёвыя акцыі. Атрад імя Нябабы становіцца легендаю Палесься, як некалі было з атрадам атамана Мухі. Партызаны Харэўскага дзейнічаюць ня толькі на Берасьцейшчыне й Піншчыне, але й каля Косава, Століна, Лахвы, Камень-Кашырска, наводзячы жах на акупантаў і іх памагатых.

Дакладна невядома, калі атрад атамана Якуба Харэўскага самараспусьціўся. У адных крыніцах згадваецца 1945 г., у іншых – 1948 год, а сам атаман сьцьвярджаў, што гэта адбылося нібыта на пачатку 50-х. Найбольш праўдападобным выглядае 1948 год, бо, паводле некаторых зьвестак, ужо ў 1949-м партызаны Харэўскага выехалі з Заходняй Нямеччыны ў Паўднёвую Амэрыку. Шлях жа іх праз «жалезную заслону» быў нялёгкім. Пасьля таго, як саветы пачалі чарговую карную акцыю супраць атрада імя Нябабы, пасьля цяжкіх баёў, атаман Харэўскі часткова сваіх людзей распусьціў, а часткова перакінуў у Польшчу каля Тэрэспаля. Адтуль нябабаўцы групамі перайшлі ў Нямеччыну, куды разам з атаманам дабралася 18 чалавек.

У той час, калі на працягу 1947-48 гадоў кіраўніцтва Ўкраінскай Паўстанчай Арміі перакінула тысячы сваіх партызанаў з Украіны ў Заходнюю Нямеччыну, беларускіх «лясных братоў» на Захад трапіла, мабыць, ня больш за сотню... Чаму так здарылася? Канчаткова на гэтае пытаньне пакуль нельга адказаць. Відаць, кіраўніцтва Беларускага Рэзыстансу ў той час не хацела праводзіць падобных прапагандысцкіх акцыяў (а рэйд аддзелаў УПА на Захад якраз і быў прапагандысцкай акцыяй, каб даказаць Вольнаму Сьвету, што за «жалезнай заслонай» існуе моцны ўкраінскі паўстанцкі рух. Сваёй мэты кіраўніцтва УПА дасягнула), а пасьля ўжо не было магчымасьці перакінуць праз межы такую масу людзей. Нездарма адзін зь беларускіх партызанаў, якія трапілі на Захад, пісаў: «многія хочуць ісьці сюды, але раней гэтага не зрабілі, а цяпер лягчэй на месцы прыхавацца, чымсьці перабрацца на Захад».

У Заходняй Нямеччыне партызаны Харэўскага не затрымаліся, бо й там і ўжо ў Паўднёвай Амэрыцы за імі палявалі чэкісты. Усе яны разам з атаманам і з партызанамі атамана Перагуда (яны таксама перабраліся на Захад, але трохі раней) выехалі ў Бразылію. Імкнуліся як найдалей ўцячы ад «доўгай рукі Крамля».

Частка ўдзельнікаў Беларускай Народнай Партызанкі і Беларускай Народнай Грамады трапіла ў ЗША і Канаду. Сяргей Хмара ў Таронта пачынае выдаваць газэту «Беларускі Голас», зь якой супрацоўнічалі атаман Язэп Таўпека, паранены ў партызанцы чэкістамі Юрка Стасевіч ды іншыя. Многія зь іх лічылі, што атаман Харэўскі загінуў на Бацькаўшчыне. У лістападзе 1967 году Таўпека піша ў «БГ» ці ня першы артыкул пра народную партызанку, згадваючы Харэўскага-Новіка, як палеглага героя. Дайшла газэта да Бразыліі, ня вытрымаў атаман Харэўскі, напісаў у Канаду ліст. І вось у студзені 1968-га ў «Беларускім Голасе» зьявілася першая і апошняя публікацыя славутага партызанскага атамана – «Аб беларускай партызанцы ў апошнюю вайну». 2 красавіка 1968 году атаман Якуб Харэўскі гіне разам з сваім ад'ютантам Кастунам Гукам у аўтамабільнай катастрофе ў Рыо-Грандэ Порт Алекра. Ёсьць падставы лічыць, што да ягонай сьмерці маюць дачыненьне савецкія спэцслужбы, якія шырака выкарыстоўвалі для зьнішчэньня палітычных праціўнікаў «аўтамабільныя катастрофы».

Ягоныя сябры пісалі ў нэкралёгу: «Хай-жа будзе лёгкай яму чужая зямелька, ды хай сьніцца яму любая Бацькаўшчына, за вызваленьне якой ён змагаўся цэлае сваё жыцьцё»...

**Сяргей Ёрш**

## АБ БЕЛАРУСКАЙ ПАРТЫЗАНЦЫ Ў АПОШНЮЮ ВАЙНУ



Вітаючы зьмяшчэньне «Беларускім Голасам» на 25-я ўгодкі артыкула аб Беларускім збройным антыгітляроўскім рэзыстансе, хацелася б дадаць некаторыя падрабязнасьці, ды насьвятліць некаторыя няяснасьці (мо дзеля яго кароткасьці) ўспомненага артыкула.

Выратаваліся за мяжу па вайне з праведзенай асобнымі дывэрсійнымі групамі НКВД «асобага назначэньня» масакры толькі лічаныя адзінкі з нашага збройнага партызанскага руху. Астатнія, калі не грызуць зямлі, пагібшыя ад здрадзецкай кулі агентаў Панамарэнкі, дык, знаходзячыся на тэрыторыі СССР, ня могуць падаць сваіх успамінаў да абнародаваньня і таму гэты абавязак ляжыць на нас, якія знайшліся ў вольным сьвеце, перадусім у Бразыліі і Аргентыне. Гэта важна для гісторыі і для разаблачэньня маны савецкіх гісторыкаў, якія спрабуюць удаць перад сьветам, што Беларуская партызанка — гэта камуністычная партызанка. Тады, як напраўдзі, толькі па крывавай і падступнай барацьбе, савецкія дывэрсанты патрапілі зьнішчыць Беларускае нацыянальнае кіраўніцтва Беларускай партызанкі і паволі падпарадкаваць подступам і тэрорам беларускія партызанскія масы пад свой провад, абезгаловіўшы спачатку атрады зь іх камандзераў і дзейнейшых сяброў.

Па-першае: чаму Галоўны Камандзер Беларускага Партызанскага Руху палкоўнік Шанько гэтак неасьцярожна паддаўся на правакацыю «перагавораў» з высланьнікам Маскоўскага Ураду —палкоўнікам Ільдовым? Ато-ж нам было ведама ад «бульбаўцаў», што гэтакія самыя перагаворы ўжо вядзе з украінскімі партызанамі другі падобны высланьнік савецкага ўраду, нейкі палкоўнік Мядзьведзеў, і што яны там дамовіліся да некаторай супрацы. Нашыя атрады спатыкаліся за Прыпяцяй каля Ратна і каля Камень-Кашырска і Любяшова з украінскімі партызанамі, якія ад імя свайго атамана называліся «бульбаўцы». Таму палкоўнік Шанько не лічыў на здрадзецкі напад.

Паводле пазьнейшага разказу прадстаўніка «Антыфашыстоўскага камітэту» ў Берасьці «Юзіка» (Язэпа Урбановіча — С.Ё.), як зьвяраўся пазьней ім Ільдоў, ён меў наказ ад Панамарэнкі, які кіраваў савецкай дывэрсійнай дзейнасьцю на Беларусі, зьнішчыць любым спосабам Беларускую незалежную партызанку і падпарадкаваць абезгалоўленыя атрады сабе (у сваіх успамінах «Война в тылу врага» Льдоў-Ліннькоў піша пра візыт да Панамарэнкі перад вылетам на Беларусь і што ад яго ён атрымаў вельмі важнае заданьне, але не раскрывае, якога яно было характару — С.Ё.). Ён, выклікаўшы Шанька на перамовы, безцырамонна зажадаў, каб ён падпарадкаваўся яму, як былы савецкі маёр і падпарадкаваў яму атрады. Затое прапанаваў яму мейсца свайго памоцніка ў кіраўніцтве партызанскім рухам Палесься, вызначаючы сябе на кіраўніка гэтага руху. Калі Шанько адказаў яму, што ані ён асабіста, ані Беларускі партызанскі рух яму, як высланьніку СССР, не падпарадкуецца, Ільдоў выхапіў наган і стрэліў у грудзі палкоўніка Шанька...

Стэрарызаваўшы ягонага ад'ютанта, яны паслалі ў штаб Шанька вестку, быццам палкоўнік Шанько вылецеў самалётам у Маскву на перагаворы, а часова перадае камандаваньне «Баці», якім і зьяўляўся той-жа забойца камандзера Беларускай партызанкі —палкоўнік Ільдоў. Так пачалася правакацыя, а за ёй нішчэньне ў атрадах нашых дзейных адзінак, ачарняючы іх у «супрацы зь немцамі», забіваючы з-за вугла, падсылаючы нават даносы да немцаў, нішчылі іх іхнымі рукамі і г.п.

У 1943 годзе нашая партызанка налічвала на Палесьсі больш 5 тысяч. Яна не была поўнасьцю зьнішчаная, як можна было б памылкова ўняскаваць з скарочанага сказу ў артыкуле «Беларускага Голасу». Адзіночныя нашы атрады праіснавалі ў глыбіні Палесься (між Сьвятой Воляй, Ратнам і Любяшовам) ня толькі да канца панаваньня немцаў, але й па прыходзе савецкіх уладаў і па заканчэньні вайны, папаўняныя новымі ўцякаючымі, ды дзеялі да 1950-х гадоў, калі адбылася астатняя ведамая нам збройная спатычка з савецкімі карнікамі. Гэтыя дробныя нашыя атрады наганялі страху на вясковых прыхвасьняў новых асвабадзіцеляў ад Косава да Берасьця, Камень-Кашырска, Давыд-Гарадка і Лахвы. Такія атрады ўкраінскіх «бульбаўцаў» дзеялі па той бок Прыпяці і нашыя аддзелы ад пагоні звычайна хаваліся да «бульбаўцаў», а яны, калі там напіралі, уцякалі і перасіджвалі ў нашых стаянках.

Наш паднішчаны атрад ў 50-ых гадох самазьліквідаваўся і сябры ў бальшыні перабраліся ў Польшчу, а адтуль пасьлей на Захад.

**Харэўскі**

*«Беларускі Голас» (Таронта), №156, студзень 1968 г.*

*Археалягічныя*

# ЛЮДЗІ НА

**Пасьля таго, як у сярэдзіне XIX ст. пад Цюрыхам на дне возера былі знойдзеныя сьляды жытлаў і паляў, у археалягічнай літаратуры пачала абмяркоўвацца праблема «палевых паселішчаў». Далейшыя пошукі на дне і ўзьбярэжжах прыальпійскіх азёраў прывялі да адкрыцьця культуры цэнтральнаэўрапейскіх азёрных пасёлкаў позьняга і бронзавага вякоў.**

**А ў 1960-70-х гадах, калі «палевыя паселішчы» пачалі актыўна дасьледавацца ў Прыдзьвінскім краі і на Смаленшчыне, Аляксандар Мікляеў пачне пісаць, што ў Беларусі і суседніх зь ёю Пскоўскай і Смаленскай абласьцях у II-III тасячагодзьдзях да н.э., несумненна, існавала адмысловая цывілізацыя будаўнікоў палевых паселішчаў, якія мелі працяглыя і ўстойлівыя культурныя сувязі з насельніцтвам Цэнтральнай Эўропы.**

**Вада была ня толькі найгалоўнай умоваю жыцьця людзей на палях, але й выдатным «архівам інфармацыі»: у вільготнай глебе, азёрных донных адкладах ці проста ў вадзе ў найлепшым выглядзе захоўваліся рэшткі драўляных будынкаў, рэчы з костак, дрэва, тканіна...**



Адна з рэканструкцыяў азёрнага будынку на палях.

### ПРЫАЛЬПІЙСКІЯ «ПАЛЕВЫЯ ПАСЕЛІШЧЫ»

Першыя паселішчы на палях былі адкрытыя ў Швэйцарыі яшчэ ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя. У час халоднай і сухой зімы 1853-54 гадоў узровень большасьці азёраў пад Цюрыхам панізіўся настолькі, што агаліліся вялікія ўчасткі прыбярэжнага дна. Менавіта тады на берагах сталі пnative праглядацца рэшткі паляў ды іншых драўляных канструкцыяў, разнастайных старажытных рэчаў... Сцьвярджаюць, што найбольш уважліва да іх стаў прыглядацца мясцовы настаўнік Ёганэс Аэплі. Прадчуваючы незвычайнасьць зробленых ім назіраньняў, Аэплі паведаміў пра іх вядомаму спэцыялісту ў старажытнай гісторыі зь Цюрыха Фэрдынанду Келеру. Агледзеўшы палі ды іншыя дзіўныя знаходкі, Келер прыйшоў да высновы, што на возеры ў старажытнасьці існавалі палевыя паселішчы. Яны маглі будавацца на беразе ці разьмяшчаліся над вадой возера. Апошнюю сваю здагадку Келер палічыў найбольш праўдападобнай. Хаціны старажытных людзей, разважаў далей дасьледчык, маглі стаяць на палях і злучаліся зь берагам.

Пасьля больш чым ста гадоў раскопак і працяглых дыскусіяў па выніках археалягічных дасьледаваньняў азёрных паселішчаў большасьць спэцыялістаў стала сьцьвярджаць, што, насамрэч, пасёлкі будаваліся не на вадзе, а на берагах старажытных вадаёмаў. Падлогі будынкаў маглі разьмяшчацца на слупах. Паселішчы апыналіся ў вадзе ў выніку ваганьня ўзроўню вады ў азёрах, што вельмі часта здаралася ў пэўныя кліматычныя пэрыяды, прынамсі, у канцы III-II тысячагодзьдзяў да н.э. Пасьля чарговага пад'ёму вады «палевыя паселішчы» гінулі, а іх жыхары вымушаныя былі займаць больш спрыяльныя для жыцьця ўчасткі берагоў. Праўда, іншыя археолягі застаюцца перакананымі, што пры пэўных абставінах жыцьцё на «палевых паселішчах» працягвалася і над вадой.

«Палевыя», ці інакш, «швэйцарскія паселішчы», пазьней былі адкрытыя ня толькі на Цюрыхскім, але і на многіх іншых прыальпійскіх азёрах. Такога тыпу археалягічныя помнікі дасьледаваліся ў Нямеччыне, Аўстрыі, Італіі, Францыі. Большасьць зь іх адносіцца да часоў нэаліту і эпохі бронзы.

На месцы паселішчаў ва ўмовах багністых азёрных адкладаў добра захаваліся ня толькі драўляныя часткі канструкцыяў пабудоваў, у тым ліку палі, але й рэшткі пабытовых рэчаў з костак, дрэва, посуд, дэталі адзеньня, тканіна, плеценыя вырабы ды іншы рыштунак, які ня знойдзеш у пясчаных культурных пластах. Жытлы найчасьцей былі простакутнымі. На падлозе разьмяшчалася агнішча, змайстраванае з гліны. Сярод тысячаў жэрдак, слупоў, дошак, палак археолягам часта трапляліся разьбітыя гаршчкі, крамянёвыя вырабы, у іх ліку, напрыклад, нажы з драўлянымі дзяржальнамі, лукі, сякеры, вёслы, плеценыя кашы, драўляныя цабэркі, сеткі, кавалкі тканіны, прадзіва...

У пластах такіх паселішчаў можна адшукаць рэшткі расьлінаў і нават кветкавы пылок. Іх аналіз дазваляе зразумець, як зьмяняліся краявіды ў тыя далёкія часы. Напрыклад, стала дакладна вядома, што ў пэрыяд пераходу ад нэаліту да бронзавага веку на берагах мясцовых азёр расьлі букавыя лясы.

У Швэйцарыі, акрамя наземных раскопак, ужо некалькі дзесяцігодзьдзяў вядуцца падводныя работы па вывучэньні палевых паселішчаў. Праз унікальную мэтодыку і спэцыяльнае абсталяваньне археолягам удаецца расчышчаць і дасьледаваць на дне азёр шэрагі паляў і драўляныя канструкцыі часоў каменнага і бронзавага вякоў.

Знаходкі археолягаў можна паглядзець у шматлікіх музэях, якія разьмяшчаюцца ля падножжа Альпаў. А ў Нямеччыне на Бадэнскім возеры наведнікам паказваюць рэканструяванае «палевае паселішча» Унтэрулдзінген. Раскопкі многіх палевых паселішчаў працягваюцца дагэтуль. Пад Цюрыхам ці нават у межах самога гораду можна ўбачыць, як археолягі завіхаюцца ў пошуках сьлядоў, якія пакінулі жыхары пасёлкаў на палях.



Sweet Trak (Англія) – дарога, якой болей за 5 000 гадоў.

### «ПАЛЕВАЯ ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ» ПАДЗЬВІНЬНЯ

Пачынаючы з 1960-х гадоў, археалягічнымі экспэдыцыямі Эрмітажа ў Пскоўскай вобласьці на берагах азёр Усьвяцкае, Жыжыцкае, Сеньніца, а таксама пад Вяліжам, што на Смаленшчыне, вывучаліся адмысловыя «палевыя паселішчы». Старажытныя пасёлкі такога кшталту, паводле Аляксандра Мікляева, будаваліся і на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Маюцца на ўвазе ня толькі знакамітыя Крывіна і Асавец на Віцебшчыне, але і іншыя шматлікія месцы на балотах Друйкі, Друці, Вяльлі... Згадваючы іх, Аляксандар Мікляеў пісаў, што ў Беларусі і суседніх зь ёю Пскоўскай і Смаленскай абласьцях у часы нэаліту і эпохі бронзы існавала «адмысловая цывілізацыя будаўнікоў палевых паселішчаў, якія мелі працяглыя і ўстойлівыя культурныя сувязі з насельніцтвам Цэнтральнай Эўропы».



Драўляная дарога канца 3 тыс. да н. э., раскапаная археолягамі ў адным з балотаў Галяндыі.

Усходнеэўрапейскія азёрныя паселішчы на палях таксама датуюцца III-II тысячагодзьдзямі да н.э. Паселішчы гінулі ў выніку катастрафічнага сваімі наступствамі пад'ёму вады. Людзі перасяляліся на высокія ўчасткі берагоў. Разбураныя пасёлкі, апынуўшыся ў вадзе, зь цягам часу затарфоўваліся. Багна навечна паглынала тое, што засталося ад колішняга чалавечага жылля... Але сустракаюцца азёры, на якіх торф не ўтвараўся. У такім выпадку рэшткі палевага паселішча можна ўбачыць на дне возера. У 1976 годзе такое паселішча было знойдзена ў возеры Сеньніца пад Невелем на глыбіні 1,5 м. Людзі пакінулі яго ў сярэдзіне II тысячагодзьдзя да н.э.

Пры вывучэньні паселішча Сяртэя, што каля Вяліжа, археолягам прыйшлося пагружацца ў ваду з аквалянгамі і з дапамогаю эжэктараў размываць сапрапель. У Сяртэі знайшлі рэшткі памосту, які абапіраўся на палі. Сяртэя загінула ў вялікім пажары. Побач з насьцілам археолягамі знойдзеныя моцна абгарэлыя косткі мужчыны сярэдняга веку.

Пад «палевыя паселішчы» людзі найчасьцей выбіралі ціхія залівы, там, дзе ўпадала ці выцякала з возера рачулка. Як гэта ні дзіўна, але адно зь Сяртэйскіх паселішчаў разьмяшчалася на палях пасярод невялікага возера, берагі якога на той час былі моцна затарфаваныя. На Ўсьвяцкім возеры палевае паселішча будавалася за 20-30 м ад старажытнай берагавой лініі. Глыбіня вады на месцы палевых жытлаў даходзіла да 70-80 см. Палі пры гэтым мелі даўжыню 1-1,5 м. Паселішча складалася з шэрагу пабудоваў, кожная зь якіх займала плошчу больш за 20 кв.м. Жытлы стаялі ўздоўж берага і злучаліся адно з адным драўлянымі пераходамі.

Вызваленыя з-пад торфу драўляныя канструкцыі вельмі хутка гніюць. Апынуўшыся на паверхні,

*адкрыцьці сьвету*

# ВАДЗЕ

яны цямнеюць, пакрываюцца трэшчынамі, а затым пачынаюць рассыпацца. Сярод тысячаў драўляных рэштак зь цяжкасьцю ўдаецца прасачыць канструкцыю жыльлёвых і гаспадарчых збудаваньняў. Міхась Чарняўскі на Крывінскім тарфяніку, на Віцебшчыне, раскопваў паселішча, якое забудоўвалася жытламі з двухсхільным дахам. Жэрдкі даху трымаліся на гарызантальнай кладзі, якая абапіралася на разьвілкі-расохі. Страха пакрывалася трысьнягом. У будынках знаходзіліся адкрытыя агнішчы, аснову якіх складалі пласты пяску на вымастках зь яловай кары.



Гэтак уяўлялася ў сярэдзіне 19 стагодзьдзя мастаку Хейгу старажытнае палёвае паселішча.

Ад чалавечай дзейнасьці на месцы паселішчаў захавалася шмат вырабаў з каменю, костак, дрэва, шматлікая кераміка, упрыгожваньні, касьцяныя скульптуркі і іншыя творы мастацтва, луска рыб, косткі жывёл, шалупіньне пладоў, ракавіны, рознае сьмецьце...

Як тлумачаць спэцыялісты такое ўстойлівае памкненьне людзей разьмясьціць свае жытлы на ўзьмежжы вады і берага ці на вадзе? Варта меркаваць, што ўзьнікненьне «палевых паселішчаў» было адной з формаў адаптацыі да мясцовых умоваў з улікам зьменлівасьці тагачаснага клімату. Людзі сяліліся як мага



Сьляды драўлянай забудовы ў Крывінскім тарфяніку (Віцебшчына). Раскопкі і фота Міхася Чарняўскага (канец 1960-х гадоў).

бліжэй да вады ў час скарачэньня плошчы возера ці забалочваньня яго ўзьбярэжжа, бо гаспадарка іх засноўвалася на даволі эфэктыўнай эксплюатацыі комплексу трох асноўных тыпаў ляндшафту: вады, забалочаных берагаў, навакольных лясоў. Людзі жылі з рыбалоўства, зьбіральніцтва і паляваньня, у тым ліку на водную, балотную дзічыну. Але наўрад, мяючы, напрыклад, на ўвазе плытка-воднае разьмяшчэньне паселішчаў, будаўніцтва на палях было абумоўлена патрэбамі бясьпекі.

Аналізуючы культуру жыхароў «палевых паселішчаў» Падзьвіньня, А.Мікляеў меркаваў пра магчымае існаваньне ў III-II тысячагодзьдзях да н.э. нейкага культурна-гістарычнага «калідору», які цягнуўся ад Цэнтральнай Эўропы праз прыдзьвінскі азёрны край і далей да Падняпроўя і Верхняга Паволжа. Шырыня такога ўмоўнага «калідору» магла вагацца ў залежнасьці ад гістарычных абставінаў, але пры гэтым доўгі час захоўваючы свой асноўны накірунак з паўднёвага захаду на паўночны ўсход.

Вялікая колькасьць «палевых паселішчаў» у Беларусі застаецца пакуль невядомай для археолягаў. А пра тое, што праз нейкі час навукоўцаў чакае ў гэтай галіне не адно выдатнае адкрыцьцё, сьведчыць мноства сабраных зьвестак. Я маю на ўвазе ня толькі аповеды рыбакоў пра бачаны біты посуд, слупы на дне некаторых азёр, але й паданьні пра масты над азёрамі, затопленыя колісь «цэрквы» і караблі і г д. Пра рэшткі дзіўнай керамікі, косткі, шалупіньне арэхаў ды жалудоў, памосты з дрэва ў тарфяніках часам згадваюць мэліяратары.

## ШЛЯХІ ПРАЗ БАГНУ

У 1950-х гадах у правінцыі Дрэнтхе, што на паўночным усходзе Галяндыі, у багністай глебе археолягі адшукалі дарогу, якою карысталіся тутэйшыя насельнікі каля 2000 году да н.э: Шлях праходзіў праз багну. Дарога складалася з шчыльна пакладзеных на лагі бярвеньняў.

Яшчэ больш старажытны шлях па балоце быў знойдзены на паўднёвым захадзе Англіі ў Somerset Levels. Яму болей за 5000 гадоў. Археолягі раскапалі яго на глыбіні некалькіх мэтраў. Sweet Track — такую назву атрымаў адшуканы шлях — быў пабудаваны людзьмі для больш зручнага перасоўваньня да суседніх узвышшаў на балоце. Sweet Track цягнуўся больш за 1,5 км. Археолягі, якія вывучалі яго, знайшлі паміж бярвеньняў ці на ўзбочынах дарогі ня толькі сьляды апрацоўкі дрэва, але й розныя іншыя рэчы, згубленыя людзьмі ў старажытнасьці.

## БІСКУПІН — ГАРАДЗІШЧА ПАСЯРОД ВАДЫ

У канцы эпохі бронзы, а тым больш у часы раньняга жалезнага веку, вада становіцца адной з найважнейшых умоваў бясьпечнага існаваньня людзей на ўмацаваных паселішчах.

У Польшчы на беразе возера Біскупін каля Познані можна агледзець бадай адно з самых відовішчных гарадзішчаў I тысячагодзьдзя да н.э. Біскупін — паўзатопленыя рэшткі ўмацаванага паселішча, якое ўдалося ня толькі дасканала вывучыць, але й часткова аднавіць,ператварыўшы ў адмысловы музэйны цэнтар пад адкрытым небам.

У 1933 годзе школьны настаўнік Валенты Швэйцэр на адной з паўвыспаў возера Біскупін заўважыў вялікую колькасьць бярвеньняў, якія вытыркаліся на паверхні былога дна. Возера ў тыя гады моцна абмялела пасьля актыўнай мэліярацыі. Швэйцэр паведаміў пра сваё, на яго думку, вартае ўвагі адкрыцьцё ў Вялікапольскі музэй, дырэктарам якога ў той час быў знакаміты археоляг прафэсар Юзаф Кастшэўскі. У наступным годзе Кастшэўскі прыехаў у Біскупін. На працягу шасьці гадоў пад кіраўніцтвам прафэсара раскопвалася паўзатопленае паселішча. Пакрысе пачалі абазначацца контуры вуліц, рэшткі драўляных будынкаў і ўмацаваных гарадзішчанскіх сьцен. Сярод бярвеньняў археолягі знаходзілі вялікую колькасьць старажытных рэчаў, некалі згубленых ці пакінутых людзьмі.

Адкрыцьцё Біскупіна сталася адной з найвялікшых падзеяў у польскай археалёгіі напружаных перадваенных гадоў. У літаратуры адзначаецца таксама вялікае грамадзка-палітычнае значэньне раскопак Біскупіна для тагачаснага польскага грамадзтва. Біскупін спрыяў актывізацыі цікавасьці да свайго мінулага, пад'ёму патрыятычных пачуцьцяў.



Узноўленая брама гарадзішча ў Біскупіне (Польшча).

Паведамленьні пра вынікі раскопак траплялі ня толькі на старонкі газэт і часопісаў, але й распаўсюджваліся з дапамогаю дырыжабляў, зь якіх да людзей ляцелі інфармацыйныя ўлёткі.

Вучні Юзафа Кастшэўскага працягвалі капаць Біскупін у пасьляваенныя гады. Нягледзячы на цяжкі эканамічны стан разбуранай вайною краіны, польскі ўрад усяляк спрыяў пасьпяховаму завяршэньню дасьледчых працаў у Біскупіне.

Паселішча ў Біскупіне займала паўвыспу плошчаю каля 2 га. Яно было акружанае валам шырынёю каля 4 м, які ўмацоўваўся сьценаю зь бярвеньняў. Пад гарадзішчанскія сьцены ўшчыльную падыходзіла вада, а таму іх атачылі спэцыяльнымі дубовымі бярвеньнямі, аб якія разьбіваліся хвалі возера. Уздоўж сьцен умацаванага паселішча праходзіла драўляная вуліца. Адзінаццаць іншых паралельных вуліц перасякалі гарадзішча ўпоперак. Уздоўж іх стаялі доўгія будынкі. Нягледзячы на тое, што хаты захаваліся часткова, толькі да вышыні 1 м, польскім археолягам удалося іх цалкам рэканструяваць. Будынкі мелі доўгія драўляныя сьцены. Кожнае з памяшканьняў складалася зь сенцаў і вялікага пакою, у якім разьмяшчалася каменнае агнішча. У кутку знаходзіліся драўляныя палаці. Падлога пакрывалася шчыльна пакладзеным бярвеньнем.

У Біскупіне жыло некалькі соцень жыхароў. Яны былі земляробамі і пастухамі. Палі й лугі разьмяшчаліся на берагах возера. Калі жыхары Біскупіна паміралі, іх крэміраваныя косткі зьмяшчалі ў пахавальныя пасудзіны й везьлі на могільнік, які разьмяшчаўся за возерам.

Паселішча існавала ў межах 700-400 гадоў да н.э. У канцы V стагодзьдзя да н.э. з наступленьнем больш халоднага й вільготнага клімату ў возеры адбываецца гвалтоўны пад'ём вады. Вада пачынае ня толькі падмываць берагі выспы, але й зацякаць на тэрыторыю гарадзішча. Ратуючыся ад прыліваў, біскупінцы павышаюць узровень вуліцы і падлогі, накладаючы новыя пласты бярвеньняў. У некаторых хатах археолягі адзначалі чатыры гарызонты драўніны. Абставіны змусілі людзей пакінуць гарадзішча, якое ўрэшце апынулася ў вадзе.

У 1949 годзе ў Біскупіне быў створаны музэй, у якім дэманстраваліся матэрыялы археалягічных раскопак. Аднаўленьне асобных участкаў вала, вуліц і дамоў пачалося ў 1968 годзе. Шматлікія наведнікі Біскупіна сёньня могуць прагуляцца па некаторых вуліцах старажытнага паселішча, увайшоўшы ў яго праз гарадзішчанскую браму зь невялікай вежай. У рэканструяваных будынках узноўлены інтэр'ер часоў раньняга жалезнага веку.

**Мікола Крывальцэвіч**

# Старонка празаічнага радка



Аляксей Бацюкоў

## ПУБЭРТАТНЫ ПЭРЫЯД

Я сьціраю гэты малюнак са сваіх вачэй, але ён цьвікамі прыбіты да маіх думак, я станаўлюся агнём, я з хрыпам кідаюся на ложак і водар бялізны рве мяне хмяльной хваляй, і я б'юся ў шалёнай асалодзе, і ўсё тымі ж цьвікамі разьдзірае мае думкі

жанчына ляжыць на пасьцелі, кароткая майка напятая выбухамі гурдзей, пасярэдзіне якіх – вар'яцкія кропкі смочкаў. Лёгкая спадніца хавае пругкасьць клубоў. Я іду да яе, зь цемры і цішыні, яна ня бачыць маіх рук, ня бачыць, і

не магу пісаць далей. Усё зьмяшалася, сьцены майго пакоя, кнігі на стале і наўсьцяж – загарэлыя, аксамітныя ногі, па якіх я кранаю языком усё вышэй, мае рукі трымаюць аловак і раптам далонь зьмяёй скочыла наперад і сьціснула пяшчоту налітай грудзі, вусны – вусны – вусны – вусны…

Валадзей Болка

## ВЫБАР

З раніцы да мяне пачалі прыходзіць жанчыны: тыя, каго кахаў у юнацтве і пасьля, жонка, зь якой разышоўся, каханкі на адну ноч, розныя іншыя, прыгожыя і ня вельмі, маладыя і больш сталага веку, знаёмыя і тыя, каго быццам у першы раз бачу.

А яны ўсё прыходзяць, некаторыя нават не вітаюцца. Самае дзіўнае тое, што я іх ня клікаў. І ніхто ня скажа, зь якой нагоды прыйшлі. Але нутром адчуваю: штосьці павінна адбыцца.

Нехта падыходзіць ззаду і закрывае далонямі вочы. Дзе ж тут адгадаеш?

– Якая розьніца? – кажу я і паварочваюся.

Перада мной прыгожы твар. Вочы. Што за чароўныя вочы! Такога блакіту я ня бачыў нідзе.

– Скажыце, калі ласка, што я тут раблю? – пытаюся я.

– Ты запрасіў нас, каб выбраць адну каханую.

– Але ж многіх я нават не пазнаю. Хто вы такая, напрыклад?

– Мы калісьці сустрэнемся вачыма. Вы адарвеце вочы і больш ніколі ня ўбачымся…

***

Еду на працу.

Усё ж дзіўны сон з гэтымі жанчынамі.

Цікава, каго я выбраў? Не магу прыпомніць.

Выходжу з мэтро, бачу жанчыну і слупянею… Сінія вочы… Гэта яна! Людзі, якім я загарадзіў праход, лаюцца, штурхаюць мяне, але я не зьвяртаю на іх увагі, а паціху падыходжу бліжэй да дзяўчыны. Цяпер толькі прыпамінаю, які зрабіў выбар…

Ганна

## АДНОЙЧЫ

Аднойчы я адчую, што ты ўжо прыйшоў і праз колькі месяцаў гучна аб'явіш аб гэтым усяму сусьвету. Але перад тым люстэрка пакажа нашую прыгажосьць, і мы пачнем рыхтавацца да сустрэчы. Нам трэ абраць табе добрае імя, прыйсьці ў добрую фізычную форму, прачытаць шмат разумных кніжак дый шмат чаго яшчэ зрабіць, пакуль, нарэшце, ты не аддзелісься ад мяне і мы ўпершыню не зазірнем у вочы адзін аднаму. Аднойчы… Калі ж прыйдзе гэты дзень.

Г-к

## ЦЫКЛЬ

Яго напаткала каханьне. У гэтым не было ніякага сумневу. Яе вочы не пакідалі яго ні на хвілю. Божа! На сьвеце не было нічога прыгажэйшага за ЯЕ ВОЧЫ! Кожная ягоная думка, кожны ягоны рух адбываліся быццам у нейкім прыцягвальным полі, крыніцай якога была Яна. Ад гэтага не ратавала ні прастора, ні час. А ён і не спрабаваў ратавацца. Крылы пачуцьцяў несьлі яго ў вышыню, здаецца, у неба, бо Яна, яго ідэал, была стварэньнем нябесным (ва ўсялякім разе, ён у гэтым не сумняваўся).

Якое шчасьце, што Бог не абдзяліў яго каханьнем, што і ў яго вырасьлі крылы! Ён імкнуў да сваёй Каханай і падымаўся ўсё вышэй і вышэй. Грэшная зямля здавалася ўжо нечым недарэчным і непатрэбным. Пачуцьці паглынулі яго да такой ступені, што ён забыўся нават пра небясьпеку катастрофы. Ён забыўся, што дасягне сваёй Каханай толькі тады, калі Яна рушыць яму насустрач на крылах свайго каханьня. І вось расплата – у пункце максымальнага свайго ўздыму Яна яго не сустрэла…

У скронях затухкала, у вачох пацямнела, загуло ў вушах, сьцяліся сківіцы, крылы абвісьлі… Пачалося падзеньне… А ён уяўляў ЯЕ ВОЧЫ. Нават ужо на шэрай зямлі, стогнучы ад болю ў зламаных крылах і разьбітым сэрцы, ён ніяк ня мог разьвітацца зь ЯЕ ВАЧЫМА…

Лежачы вось гэтак на сваёй зямлі, ён праклінаў боль, які не дазваляў яму зноў падняцца ў неба. Але ён падымецца! І няхай потым ізноў будзе падзеньне! Няхай… Яму б хоць крыху гэтага шчасьця, гэтага палёту ў вышыню, пакуль ёсьць надзея, што Каханая ўсё ж сустрэне яго ў пункце найвышэйшага ўздыму…

Яўгіньня Каляда

## ЛЕЦІШЧА

*Блін, не жыцьцё, а суцэльная рэфлексія на тэму сябе самога.*
*Славамір Адамовіч*

Я, утрамбоўваючы зямлю каленкамі ў позе «Маці мые падлогу», марудна прасоўвалася ўздоўж градкі, вырываючы пры гэтым зь зямлі адну траву й пакідаючы там другую. Для недасьведчаных: гэты занятак мае назву «праполка». Між іншым, найлепшы сродак рэляксацыі, прынамсі, для розуму. Гэта нават лепш, чым займацца самааналізам у ложку перад сном, бо няма небясьпекі раптоўна заснуць.

І ўвогуле, лецішча – гэта нават не правінцыя, не пэрыфэрыя цывілізацыі. Хутчэй нейкая Чорная Дзірка па-за часам і прасторай, куды чалавек валіцца са сваімі думкамі, а выкараскацца ня можа. І застаецца чалавек з думкамі сам-насам, а яны жывуць, гіпэрбалізуюцца, церпяць мутацыі й мэтамарфозы, прымаюць вычварныя формы й нараджаюць новых пачвараў. А сонейка пячэ, і дожджык пырскае, а вырваная трава ізноў лезе з-пад зямлі. Лецішча – мадэль perpetuum mobile! І галоўнае – ніякай сувязі з цывілізацыяй.

Бо нельга ж лічыць сувязяй з цывілізацыяй старыя філязофскія кніжкі, аўтары якіх ужо памерлі, а напярэдадні сьмерці выракліся сваіх разумовых вычварэньняў. (Хаця я ведаю аднаго чалавека, які цэлы год ня можа адолець Ніцшавага «Заратустру». Дык вось, ён за гэты год ужо пасьпеў пераканаць сябе і ўсіх астатніх, што Ніцшэ – ягоны ўлюбёны пісьменьнік. І носіць гэты чалавек Ніцшэ ў кайстры, і цытуе яго направа й налева, але ПРАЧЫТАЦЬ – ня можа. Ды ня ў гэтым справа!) –

І вясковы хлапчук, што прывозіць з гораду на ровары газэты за падвойны кошт, – таксама ня сувязь з цывілізацыяй.

Напэўна, газэты, што замаўляю я, хлопчык не прывозіць больш нікому.

Але аб чым новым я магу зь іх даведацца? Ні аб чым. Бо мясцовыя літаратурныя газэткі з прэтэнзіямі на арыгінальнасьць як спэцыяльна прызначаныя людзям, што нудзяцца на лецішчы.

На старонцы «Творчасьць нашых чытачоў» шукаю знаёмае прозьвішча. Мой… ну… амаль мой хлопец піша пра сваё жаданьне трахнуць нейкую «дзевачку» і пры гэтым разважае пра лёс Радзімы. Што новага? Анічога. Я й без таго ўсё ведаю й пра хлопца зь «дзевачкамі», і пра лёс Радзімы, і пра ўсё астатняе. Новага – нічога. Але проста сытуацыя дзіўнаватая – адзін аднаму пра такія жаданьні не распавядаюць, хаця й без таго кожны калі ня ведае, дык проста ўпэўнены.

А астатнія апавяданьні проста нецікавыя.

Можна забыць пра існаваньне тэлефона. Калі яго няма, значна прасьцей пераканаць сябе, што ты нікому не патрэбная.

Можна, у прынцыпе, уключыць маленькую чорную скрынку, што мае нахабства звацца «радыё».

«Я люблю цебя, Дзіма!..»

Рэакцыя неадэкватная. Спачатку выбух рогату, бо маскальская песенька прыйшлася дарэчы, а потым (амаль адразу): «Фу-у!» – ад усьведамленьня пошласьці сытуацыі. Перакрыць яму кісларод, гэтаму радыё!

Але думкі лезуць з галавы, як трава зь зямлі.

… Расейскае «люблю» – гэта, значыцца, кахаю. «Дзіма, я цябе кахаю!» Увогуле нешта незразумелае, якое імя не падстаўляй. Ці, можа, «Дзіма, я цябе люблю!»? Вось дзіўна, а раней я ведала сэнс гэтых словаў!.. Ці думала, што ведаю?..

… Наогул, ці ёсьць дзе-небудзь шчасьлівыя людзі? Я, напрыклад, сустракала некаторых вар'ятаў, якія казалі: «Я – шчасьлівы!» І сама так, здаецца, казала… Проста так, беспадстаўна лічыць сябе шчасьлівым? У такім выпадку шчасьце – гэта не спраўджваньне жаданьняў, не рэалізацыя мараў і нават не дасягненьне мэтаў, а згода прымаць сьвет такім, які ён ёсьць. Дык якога ж тады мы жывём? Дзеля якога шчасьця? Халера ясная, як сонца пячэ! На раку пайсьці, ці што? Шчыра кажучы, у гэтай сьпякотнай адзіноце, зусім не самотнай, складваецца ўражаньне, што мне насамрэч не патрэбны ніхто, акрамя майго алоўка.

Усплывае шчэ адзін успамін – цалкам праўдзівая гісторыя пра эвалюцыю мараў, мэтаў і прынцыпаў. І, бадай, пра каханьне.

Ля самай чыгункі стаяў маленькі белы дамок невядомага прызначэньня. Туды ніхто не заходзіў, бо дзьверы былі забітыя дошкамі, а вокны закладзеныя цэглаю.

У раньнім дзяцінстве я часта хадзіла на раку, мінаючы дамок. І кожны раз мне карцела, ажно да болю ў грудзёх і сьвербу ў рукох, адчыніць дзьверы й увайсьці туды. Мне мроіліся чароўныя скарбы кшталту дывана-самалёта ці ботаў-хуткаходаў. А можа, у дамку жыве Баба Яга?

Але тады па жыцьці мяне цягала за руку маці, і я, чатырох- ці пяцігадовая, мінала дамок з затоенаю ўпэўненасьцю, што калі-небудзь апынуся ў гэтай казцы.

Тады думка падысьці да дамка мяне й не наведвала.

Наведала яна мяне – дзесяцігадовую. Я нахабна падбягала да непрыступнай пабудовы, спрабавала разбурыць цэглу й грукала нагамі ў дзьверы. Дамок, вядома, не паддаваўся. Я ўжо ўсьведамляла, што Баба Яга тут не жыве, але не давала спакою думка: а раптам там пакінулі штонебудзь цікавае кшталту старых лялек?

Год праз шэсьць да мяне падбегла мая малая і ў шале зашаптала:

– Хадзем хутчэй! Там дамок адчынілі! Там маленькія чарцяняты!

Індыфэрэнтна паведаміўшы бацькам, што мы «ідзем на раку», мы зь сястрою выправіліся ў падарожжа ў казку.

Я рабіла выгляд дарослай, якую адарвалі ад справаў маленькія дзеці.

– Ну куды ты мяне цягнеш? Нашто я туды пайду?

Малая, адчуваючы хлусьлівасьць маіх словаў, моўчкі крочыла наперадзе.

– Вось, глядзі!

Я стала на парозе. Маленькае бруднае памяшканьне. Сьцены заклееныя таннымі шпалерамі. Падлога засыпаная патрушчанай цэглай і атынкоўкай. Суцэльнае павуціньне з дохлымі павукамі, якія памерлі з галадухі, бо тут нават мух не было. Адно пад стольлю жылі кажаны.

«Маленькія чарцяняты» былі намаляваныя маркерам на шпалерах, а ўнізе быў подпіс: «Metallica».

Я стаяла на парозе, расчараваная на сябе, і мне было крыўдна, да сьлёз крыўдна, што вось нарэшце спраўдзілася мая мара дзяцінства, а я гэтага не адчуваю, не ад-чу-ва-ю, НЕ АДЧУВАЮ!!!

Расчараваная, я пацягнулася на раку з надзеяй, што калі-небудзь мне зноў захочацца ўвайсьці ў дамок.

Так і не захацелася.

Яшчэ гады праз тры я насамрэч ішла на раку з маёй «амаль дарослай» малой. Раптам яна тузанула мяне за руку так, што я ледзь ня ўпала.

– Жэнька, глядзі! Дамок разбурылі!

На месцы маёй былой мары ляжала брудная гара шэрай паламанай атынкоўкі, кавалкі цэглы, якая згубіла колер, і яшчэ ўсялякае лайно.

І раптам мне зрабілася боязна. Мільганула думка: «А раптам захочацца ў дамок, а яго – няма? І ня будзе ж, ня будзе…»

Але доўга сумаваць не прыйшлося. Бо дробныя пырскі, што мы рабілі ў рацэ рукамі, нагамі і ўсім астатнім, ўзьляталі ў паветра й блішчэлі на сонцы…

Андрусь Пілёзап

## НЕБЯСЬПЕЧНАЕ КАХАНЬНЕ

Нарката каштуе тут танна. Чорны завулак як заўсёды пусты. Я ішоў. Кожны крок нібы апошні. Вось і дылер. Купіў, як звычайна адышоў, каб прашвырнуцца. Лёгкі кайф…

На дыскатэцы як заўжды шмат народу. Усе млеюць ад «квасу» (acid), п'юць піва. Мне ж патрэбная яна. Я яе ня бачыў ужо цэлую вечнасьць. Я знудзіўся па ейнай прывабнай паставе, глыбокай похве і цудоўнай беларускай мове з палескім акцэнтам.

Мы сустрэліся тут, у гэтым клюбе. Я яе запрасіў на павольны танец. Я ня ведаю, што мне дапамагло ў «ачмурэньні», але гэтая дзяўчына аказалася вельмі даступнай, і мы трахнуліся ў першую ноч нашага знаёмства. Яна была на ўсе 100! Яна мне зрабіла мінэт шчэ ў машыне, якую я ўгнаў спэцыяльна, каб з шыкам давезьці маю пякнушку ў загараднае, «каляменскае бунгала» (я так называў маю маленькую хаціну), якое я здымаў у нейкай бабці. «Джой-райд» атрымаўся файны. Усю ноч мы глядзелі парнуху і кахаліся, як монстры сэкса…

Цэлы месяц я яе бачыў кожны дзень. Мы каталіся на карусэлях, бавілі час у клюбах і сябрынах, дзе заўгодна, разам «шваліся» і адцягваліся. Я распавёў ёй пра ўсе мае сакрэты, а яна мне – пра свае. Я расказаў ёй пра тое, што я рыхтую тэракт супраць ППРБ, што я пайду на сьмерць. Яна мяне разумела ва ўсім, як ніхто іншы. Мы кляліся, што будзем разам, пакуль нас не разьвядзе куля.

Але адной раніцай яе ня стала. Яна зьнікла, растварылася. Я шукаў яе дзе мог, але ніхто нічога ня ведаў. Дзе яна? Каб пабачыць яе хоць у апошні раз.

І вось аднойчы, калі я ішоў праз начны Менск, на мяне напалі нейкія людзі, накінуліся ззаду. Дубінкай мне далі ў твар і сталі зьбіваць нагамі, пакуль я не згубіў прытомнасьць…

Галава гула. Я расплюшчыў вочы. У сутоньні я бачыў ейны твар. Яна была прыгожай, як заўсёды. Яна ўсьміхалася сваімі прывабнымі вуснамі. Яна была апранутая ў форму… Не. Я заплюшчыў вочы, адкрыў… Я добра бачыў літары ГБ на ейных пагонах. Не, гэта ня сон. Яна схілілася нада мной. У рукох яна трымала шпрыц зь нейкай жоўтай вадкасьцю. Укол яна зрабіла прафэсійна. Патрапіла якраз у вену. Я быў зьвязаны па рукох і нагох ды й не хацеў паказваць ёй свой боль.

Яна шаптала: «Сьпі спакойна, мой тэрарыст. Няхай зямля табе будзе пухам».

– Пухам, пухам, – гучала ў маіх вушох сымфонія.

Не, гэта не амфітаміны, гэта нешта іншае. Маё цела зводзіла трасца. Я павольна губляў прытомнасць.

Я паміраў доўга. Калі ж мая душа ўзьнеслася над гэтым змрочным пакоем, гэтыя людзі заварушыліся над маім целам.

– Кремация очередной партии прошла успешно. На десять ублюдков меньше, – па рацыі адрапартавала мая каханая ўсё з тым жа незвычайным палескім акцэнтам.

Алесь Шадрын

## ЗНАЁМСТВА

Калі я раптоўна яе ўбачыў, блукаючы бяз мэты па месьце N, то адразу зразумеў, што яна – мой лёс, натхненьне, шчасьце й наканаваньне нябёсаў…

Я пазнаёміўся зь ёю. Першыя пяць хвілінаў яна ставілася да выпадкова-нечаканага нашага знаёмства дужа крытычна, потым палагаднела, а ўжо праз паўгадзіны ўсьмешка асалоды зьзяла на ейных вуснах. Ёй было прыемна (я прачытаў ейныя думкі па твары, як добры фізыягнаміст), што й на яе нарэшце зьвярнулі ўвагу.

Яшчэ да таго, як загаварыць з Ірэнай (так звалі незнаёмку), я ўжо дакладна ведаў, што яна студэнтка, прыкладна 17-19 гадоў; жыве ў інтэрнаце, што ёй жахліва надакучыла; даўно марыць пра каханьне, але не са студэнцікам – такім жа «жабраком зь дзярэўні», як сама, а зь мясцовым жыхаром, прынамсі, надзейным ды з кватэраю, бо надта ўжо не карцела ехаць пасьля вучобы ў сваю родную, але маленькую й брудную вёсачку. Мае меркаваньні падчас размовы цалкам пацьвердзіліся.

Нашыя адносіны разьвіваліся шпарка. На другі дзень мы шпацыравалі, на трэці – правялі цудоўны вечар у рэстарацыі (дзе яна была ўпершыню), на чацьверты – цалаваліся, я прызнаўся ёй у каханьні, на пяты – запрасіў Ірэну ў госьці, дзе канчаткова спакусіў. Яна аддалася мне лёгка, бо я не шкадаваў дзеля яе ні грошай, ні абяцанак, ні эмоцыяў, ні ласкава-пяшчотных словаў. Тым больш, што гэтым яна спадзявалася назаўжды да сябе прывабіць мяне. Яна проста не магла ня выкарыстаць шанец, які бывае толькі аднойчы! І сапраўды, пасьля таго, як я спазнаў Ірэну, то яшчэ больш стаў яе кахаць. Цэлы месяц доўжыліся нашыя бурлівыя пачуцьці, нашая палкасьць, замілаванасьць, апантанасьць, адданасьць, шчасьлівасьць ды закаханасьць. Я так моцна прывязаўся да яе што ўрэшце запрапанаваў выйсьці замуж. На што яна зь вялікай радасьцяй згадзілася.

У суботу мы меліся йсьці пад вянец. Я загадзя купіў заручальныя пярсьцёнкі, замовіў кавярню на вечар ды пару аўтамабіляў, пашыў у салёне дзівосную вясельную сукенку. Нявеста сьвяцілася ад шчасьця, у ейных вачах бачылася бязьмежная любоў; неабсяжная радасьць ды аптымістычныя пляны на будучыню чыталіся ў кожным Ірэніным руху!

І вось – субота. Ірэна з раніцы зрабіла мадэльную фрызуру, апранулася, і зь цяжкасьцяй утаймоўваючы біцьцё сэрца, разам з гасьцямі й бацькамі, запрошанымі адмыслова на вясельле, пачала чакаць чароўнага моманту яднаньня з каханым.

Засталося тры гадзіны, дзьве, ужо адна.. Госьці, бацькі, нявеста хвалююцца: «Дзе, дзе ж жаніх? Ужо трэба ехаць, спозьнімся…» Мне тэлефануюць, едуць да мяне, грукаюць у дзьверы – але слухаўку ніхто не бярэ, кватэру не адчыняюць… Бацькі ў разгубленасьці, нявеста ў сьлязах, госьці ў роспачы (так хацелася на дармаўшчынку пагуляць!)

Вось ужо й мінула гадзіна, а якой мы з Ірэнаю павінны былі ўзяць шлюб. Але жаніх так і не зьявіўся. Што ж здарылася?! У чым жа прычына?!

А прычына вельмі ўважлівая, вартая прабачэньня. Справа ў тым, што ўчора, блукаючы бяз мэты па месьце N, я ўбачыў раптоўна дзяўчыну і адразу зразумеў, што яна – мой лёс, натхненьне, шчасьце й наканаваньне нябёсаў. Гэта была – Аксана…

Працяг са старонкі 1.

***

**Аддаляючыся ў часе, савецкая эпоха згортваецца ва ўяўленьні ва ўсё больш замкнёную гермэтычную зьяву. Ні ўвайсьці, ні выйсьці. Гэта нешта накшталт Утопіі або Сонечнага гораду зь Нязнайкавай біяграфіі. Пра Сонечны горад можна чытаць у кнізе і глядзець мульцікі, але жыць там ужо нельга. Усё цяжэй атаясамліваць сябе зь людзямі на здымках савецкае пары. Смутак або радасьць у іхных вачох успрымаеш як смутак і радасьць пэрсанажаў кінафільма. Ды й нашыя маральныя ацэнкі тагачаснага жыцьця неяк самі сабою ператвараюцца ў ацэнкі літаратурных сюжэтаў.**

**Гэта зусім ня значыць, што савецкая эпоха аддаляецца ад нас. Гэта мы самі зьмяняемся. Бо зрашчэньне тагачаснага жыцьця й літаратуры — гэта ня зьява нашага часу, гэта якраз савецкая зьява.**

**Памятаеце, у савецкай школе былі пашыраныя абмеркаваньні літаратурных герояў, пра якіх гаварылася як пра рэальнага суседа па парце. А што б на месцы П'ера Бязухава зрабіў ты?**

**Такім чынам, усё існаваньне адбывалася паводле законаў мастацкага вымыслу — фікцыі. І агульналюдзкую мараль прыкладаць да гэтага жыцьця можна толькі такім чынам — разглядаючы П'ера Бязухава як суседа. Але для гэтага трэба вярнуцца туды — у жывы Сонечны горад. Калі ж адыходзіць ад гэтае фікцыі ўсё далей, што мы й спрабуем рабіць, тады да былога савецкага камунізму можна ставіцца толькі так — як да літаратуры. Гэта значыць, адразу ўяўляць сабе, што тут дзейнічаюць іншыя законы і прыярытэты, першы зь якіх —мастацкая ўмоўнасьць, праўдападабенства. Жыцьцё й адрозьніваецца ад літаратуры так, як праўда адрозьніваецца ад праўдападабенства.**

**І вось тут самае цікавае пытаньне — як гэтая мяжа пераходзіцца. Я чамусьці адразу згадваю партрэт Дарыяна Грэя, на якім з гадамі адлюстроўваліся жорсткасьць і старэньне злачынцы, тады як сам забойца Грэй заставаўся з выгляду бязьвінным маладзёнам.**

**Натуральна, мы ведаем цану, за якую быў збудаваны Сонечны горад — мільёны чалавечых жыцьцяў. Але мяне сёньня цікавіць не статыстыка ахвяраў, а спосаб ператварэньня, брама гораду Сонца, праходзячы праз якую жывы чалавек ператвараецца ў малёванага мультыплікацыйнага пэрсанажа і наадварот.**

**Дарыян Грэй урэшце памяняўся абліччам з уласным партрэтам. Усё ўстала на свае месцы, але гэта быў канец, сьмерць. Гэта быў выхад зь літаратуры. На вялізным палатне камунізму такі выхад і такая замена абліччаў адбываецца фрагмэнтамі і з рознай хуткасьцю. Недзе ўсё гэта прайшло за год, недзе расьцягнулася на дзесяцігодзьдзі. Прычым у другім выпадку ўсё адбываецца не сьвядома, а біялягічным парадкам.**

**Гэтак сыходзіць у нябыт цэлая бібліятэка так званага сацыялістычнага рэалізму — творы, напісаныя людзьмі, якія ў жывым жыцьці існавалі паводле законаў праўдападабенства, а ня праўды. Мінае час і з адлегласьці гэтае гермэтычнае жыцьцё ўсё больш нагадвае мастацкі вымысел. Ужо не ўспрымаюцца заклікі Салжаніцына «жить не по лжи», бо разам са знакамі савецкае эпохі адыходзіць у нябыт і нашае эмацыйнае стаўленьне да яе. Вяртаючыся ў памяці ў брэжнеўскі Менск, мы ўжо не абураемся і не выстройваем лягічную лінію да свайго сёньняшняга часу. На гэтай лініі — абрыў. Мы згадваем не жыцьцё, а якісьці даўно адгледжаны і зразумелы адно толькі ў сваім жанры фільм.**

***

**... А тут яшчэ подла падвёў маштаб. Калі краіна жыве ў маштабе калгаса, дзе пануе старшыня-самадур, пра якую культуру ўвогуле можа йсьці размова? У такія часы даводзіцца канфарміраваць ня тое, што пад ідэалёгію, а менавіта пад маштаб. А што такое для нашага Гамсуна гэты самы канфармізм пад калгасны маштаб, як не ператварэньне ў нішто? Бо ў калгасе Гамсуна не ацэняць ані ў горшыя часы, ані ў лепшыя.**

**Перачытваю сьпіс пісьменьнікаў — хадакоў да прэзыдэнта і ўсьведамляю маштаб страты беларускае літаратуры. Адзіны з усяго гэтага набытак — канец беларускага пісьменьніцкага канфармізму. Гэта значыць, хоць і зьменшаная, але жывая літаратура.**

# НА НУЛЯВЫМ КІЛЯМЭТРЫ

## *Апытаньне на менскіх вуліцах*

Мы сустрэліся з калегам-журналістам выпадкова. Каля знаку нулявога кілямэтру, які нядаўна быў усталяваны на Цэнтральным менскім пляцы. Я з дыктафонам, ён з кухлем піва ў руках. Ня ведаю, ці таму прычынай была нечаканая сыпёка, але мы ў чаргоны раз заспрачаліся пра беларускую паэзію. Спрэчка скончылася не візытам на Камсамольскае возера, як заплянавалася ад пачатку, а вандроўкай па цэнтры сталіцы. На працягу гадзіны мы зрабілі па некалькі соцень мэтраў ва ўсе бакі ад уяўнага цэнтру Эўропы і цэнтру сталіцы. Мы ўявілі, што нас цікавіць толькі адно пытаньне — каго з сучасных беларускіх паэтаў ведаюць менскія мінакі.

Накірунак для пошуку акрэсьліла кабета сярэдняга веку, якая прызналася, што на тэму паэзіі нічога ня ведае, затое раіць зьвярнуцца да ейнай дачкі-школьніцы. Дзяўчына на суседняй лаве цалкам адпавядала вобразу школьніцы.

*— Анатолий Сыс ведаю... Паэтаў якіх, сучасных? Я музыкантаў сучасных беларускіх ведаю: Камоцкую ведаю, Уліс, НРМ.*

Тым часам, сьпёка ўсё ўзмацнялася, і мы вырашылі паспрабаваць лёсу ля піўных столікаў, што перад унівэрсамам «Цэнтральны». Сапраўды, улагоджаная халодным півам публіка заўжды больш ахвотна раскрывае свае нават самыя патаемныя думкі. Было названае прозьвішча Міхала Анемпадыстава.

*— Я по-русски отвечу. Дело в том, что я просто сталкивался с этим, когда он выпускал свой альбом, «Народный», по-моему.*

Але яшчэ больш наш рэспандэнт усьцешыў тым, што згадаў паэта, па прыкметах падобнага на Анатоля Сыса.

*— Лысый, забыл как зовут... Не помню фамилию.*

Беларусы — нацыя паэтаў. З гэтым пераканаmaking мы працягвалі пошукі сьлядоў беларускае паэзіі ў Менску. Скверык ля філфаку, пятачок прадаўцоў мастацкіх вырабаў у былым Аляксандраўскім скверы, славутая Панікоўка...

*— Купала Якуб... Ты мне на русском объясни. Быков ещё живёт? Не знаю поэтов...*

*— У меня есть знакомый друг. Не знаю, можно ли назвать современным белорусским поэтом, но он тоже пишет стихи.*

*— Сучасных? Ніла Гілевіча, больш ня ведаю.*

*— Сучасных? Ніл Гілевіч.*

*— Сучасных, вы знаете, ничего на ум не приходит.*

Ніл Гілевіч як выразьнік сучаснай беларускай паэзіі ў час сіесты... Магчыма, тлустай кропкай у гэтай тэме мог бы стацца візыт у букіністычную краму «Вянок», дзе прадаўшчыцы адмовіліся ў прынцыпе казаць штосьці на дыктафон. Яны падвялі нас да стэлажа й прапанавалі самім знайсьці, што там сучаснае, а што ня вельмі.

Але ж сьпёка рана ці позна спадае. Вечаровы Менск мяняе паўрасплылых бясполых людзей на дзяўчатак а ля бэнэтон. Мой прыяцель акрыяў.

*— Честно говоря, я современной поэзией не так увлекаюсь, как прозой. Но, все таки, могу сказать, что современная белорусская поэзия добилась успехов, благодаря таким представителям как Глобус, Пимен Панченко, Нил Гилевич. Чесно говоря, я их давно читала... Я абитуриент БПУ.*

Ці амаладзіў Глёбус Панчанку, ці наадварот, састарыўся праз спрычыненьне да пантэону, але йснуе меркаваньне, што сучасная беларуская паэзія — ня больш, чым некалькі кропак на белым аркушы паперы.

*— О современной белорусской поэзии могу сказать словами классика: блажен, кто смолоду был молод.*

Мы скончылі нашую вандроўку па Менску, як і жадалі. У прахалодным парку, у кампаніі маладых сымпатычных дзяўчатак, якія аж засьвяціліся ад жаданьня распавесьці пра свае адносіны зь беларускай паэзіяй і культурай увогуле.

*— Дзядуля или Бядуля написал «Час чумы», нет, это Караткевич написал, нет, Дайнека. Я отвечаю, я клянусь, что Дайнека. Какой певец, есть еще такой автор.*

*— Мікола, какой-та, Трафімчук. Ён прыходзіў да нас у школу і чытаў свае вершы для 9 і 8 класаў.*

Дзяўчаткі адразу ж пераскочылі на тэму музыкі й наперабой заспрачаліся, кляйміць ці шкадаваць Саладуху і кампанію за іхнае калябаранцтва з расейцамі і штучную беларускасьць. Але ж урэшце прыйшлі да беларускага друку.

*— Мы ў школе газет не праходзілі... А, дык, была ў пачатку стагодзьдзя «Наша Ніва», у 1925 годзе. А яшчэ было такое друкавецтва на пачатку стагодзьдзя называлася «Загляне сонца і наша ваконца». Вы прабачце, я запамятавала беларускую мову...*

Першая думка пасьля такога апытаньня: каша ў галовах. Другая думка — гэта пераходны час, які зацягнуўся. Сваім парадкам адбываецца сьціраньне знакаў мінулай эпохі. Адным з такіх знакаў была й беларуская савецкая літаратура. І беларуская савецкая мова таксама. Яшчэ трохі, і ад гэтых знакаў не застанецца ані знаку.

**Севярын Кляткоўскі**

# КНІГІ З ДРУГОГА ШЭРАГУ

У маленстве ў мяне было шмат улюбёных беларускіх кніжак: «Беларускія народныя казкі», ілюстраваныя Ціхановічам, каляровыя кніжкі казак Якімовіча, на матывы якіх я бясконца маляваў, імкнучыся пераймаць ілюстратараў. «Палескіх рабінзонаў» Маўра я чытаў на сене ў засені дзедавага саду. «Пра сьмелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» Лынькова некалькі разоў перачытаў на нарачанскім пляжы... Яшчэ помню малдаванскія казкі пра хлопчыка Гугуцэ. Але з гадамі, з вучобай у звычайнай менскай школе, патрэба ў гэтых кніжках пакрысе прапала. Патрэба ж у «дарослай» беларускай літаратуры, за выключэньнем хрэстаматыйнае клясыкі, гэтак і не прыйшла.

У бібліятэцы майго бацькі тымчасам было нямала іншых беларускіх кніг, пра прызначэньне якіх я здагадваўся зь цяжкасьцю. Яны нячапаныя стаялі на паліцах у другім шэрагу, куды залазіліся зрэдку, зазычаў падчас прыборак. Гэта былі, напрыклад, зборнік «Ад шчырага сэрца» пад рэдакцыяй Кучара, палітычныя брашуркі, тузін замызганых зборнічкаў паэтаў, чые імёны ўжо й не згадаю, беларускія пераклады Лу Сіня, Віліса Лацыса і расейскага пісьменьніка Гладкова. Як я ня імкнуўся знайсьці ў іх хоць нейкую карысьць — усё марна. Бацькі й настаўнікі катэгарычна адгаворвалі губляць час на чытаньне гэтых запыленых кніг. Зрэшты, і з школьнымі клясыкамі было ня ўсё ў парадку. Напрыклад, шыкоўным фаліянтам Янкі Купалы 40-х гадоў карыстацца ў школе ўжо не рэкамэндавалі...

Навошта ж яны былі ў хаце? Бацька казаў, што на ўспамін... Як патрапілі да нас пазьнейшыя кнігі Вялюгіна, Русака ці Кірэенкі, я ведаў — іх давалі «ў нагрузку» да дэфіцытных у савецкі час выданьняў. Але пытаньня «навошта?» гэта не здымала. Навошта іх выдаюць, калі гэтыя кнігі ігнаруе нават настаўніца роднае літаратуры?.. Гэткім чынам савецкая беларуская літаратура наогул выпадала з поля маіх зацікаўленьняў... З нашых знаёмых яе не чытаў ніхто. Я ж чамусьці шкадаваў гэтыя кнігі, ладна й дыхтоўна выдадзеныя, у якіх літары складаліся ў словы нікому не патрэбных тэкстаў... Гэтак сталася, што ў маёй сьведамасьці ўсе найбольшыя дасягненьні беларускай савецкай літаратуры засталіся ў дзіцячых кніжках.

Аднаго разу я знайшоў у бацькавай шуфлядзе й выцягнуў на сьвятло «Геаграфію Беларусі» Аркадзя Смоліча, выдадзеную ў Вільні, у друкарні Клецкіна. Да сёньня памятаю захапленьне, якое працяло мяне, як толькі перагарнуў некалькі старонак. Да таго дня, будучы школьным выдатнікам у геаграфіі й гісторыі, я быў перакананы, што ведаю амаль усё, што датычыць маёй роднай рэспублікі. Але кніга Смоліча паставіла ў маёй галаве ўсю савецкую адукацыю дагары нагамі. Перада мною разьлягаўся беларускі космас. Беларуская Вільня, бажніцы старога Менску, Арлоўская губэрня — радзіма Натальлі Арсеньневай, беларускі лесастэп на Чарнігаўшчыне, «шмат памятак беларускае мінуўшчыны» ў Брансну ды Смаленску. І яшчэ мова... Зусім не такая, якой казалі дыктары, зусім ня тая, якую нам прышчапляла настаўніца і на якой былі тыя кнігі, якія я падзіцячаму шкадаваў... І вось шкадаваньня не засталося. Усё, што было паміж улюбёнымі дзіцячымі кніжкамі і кнігай Аркадзя Смоліча, папросту праваліласяа ў нікуды...

Неўзабаве зь нетраў бацькавага архіву я выпудзіў малітоўнічак «Божым шляхам» рымскага выданьня 46-га году і граматыку Тарашкевіча 42-га году. Няцяжка здагадацца, што адбывалася ў душы савецкага падлетка па прачытаньні прадмовы: «... у зьвязку зь бясслаўным канцом бальшавіцкае ўлады ў Беларусі, натуральным чынам адпадае патрэба і ў бальшавіцкім правапісе...» Усё, што было пасьля Смоліча, было ўжо натуральным. Беларушчына асацыявалася ў мяне цяпер ня з нуднымі бясконцымі шыхтамі ў спэцыяльных аддзелах кнігарняў, а зь бясконцым сусьветам, спасьцігаць які мне давядзецца ўсё жыцьцё.

**Сяргей Харэўскі**

# ЛІСТЫ Ў ПРАВІНЦЫЮ

**Славамір Адамовіч**

*м. Бобр, Пушкіну*

*Менск, 17 ліпеня 1998 г.*

[...] Быт, быт не дае расслабіцца. Сумна было б, каб ня наш быт. У чацьвер адключылі ў маім стаяку ваду — і гарачую, і халодную. Стаяк, гэта, братка мой, ізаляваная ад іншых жылых блёкаў сыстэма водазабесьпячэньня зь першага паверха да апошняга (у маім інтэрнаце 13 паверхаў). Хітры мужычок Пузырэўскі, дырэктар вучылішча №24, якому належыць інтэрнат, з гаспадаркай не спраўляецца. Сантэхнікі — спрэс алькаголікі, прачышчаць трубы няма каму. Вось і цякуць яны, як тыя жанчыны, круглы год. Ды некалі ж павінен надысьці клімакс. Што ж да майго цярпеньня, дык яно скончылася ў панядзелак. Злы, з параненай рукой і орхаэпідыдэмітам у целе, зайшоў я да камэнданткі й кажу: так і так, паважаная, калі зараз жа ня ўключыце ваду, я вас з дырэктарам у сваёй прыбіральні зачыню, а сам па патрэбе на калідор хадзіць буду. Я, кажу, навучу вас радзіму любіць і яе грамадзянаў паважаць. І што ты думаеш, ужо ў абед пастукаў да мяне ў блёк нейкі мужычок, назваўся сантэхнікам і паведаміў, што вадзіца па стаяку пайшла. Але празь некалькі дзён гарадзкія цепласеткі адключылі гарачую ваду да 23 жніўня. Так што творчы ўздым мне забясьпечаны. Буду нямыты, але натхнёны.

Бяда, як вядома, ня ходзіць адна: грошай няма, вады няма, а тут і здароўе падупала. Пайшоў у 34-ю паліклініку —патрэбнага доктара няма (на бюлетэні). Тады пайшоў я да галоўнага лекара Таццяны Аляксееўны Філіпавай, і задаю ёй сваё набалелае пытаньне: хто, маўляў, будзе мой хворы пэніс лячыць? А сам лічу, колькі ж гэта ў яе ў кабінэце сымболяў рэжыму. Атрымалася пяць: адзін чырвона-зялёны сьцяжок настольны, адзін вялікі ў чырвоным куце, гіпсавы герб-»капуста» на сьцяне, расейскі герб-двухгаловік у выглядзе вымпэла — таксама на сьцяне, і настольная каляровая паштоўка з выявай іхнага «важдзя». Пяць сымбаляў у Аляксееўны ў кабінэце — і ніводнага ўроляга на ўсю паліклініку Савецкага, дарэчы, раёну сталіцы! Дзеля справядлівасьці адзначу, што спадарыня Філіпава не пакінула мяне без дапамогі — дала-ткі каманду сваёй падначаленай разабрацца з праблемай журналіста. Падначаленая адправіла мяне да хірурга-траўматоляга, які агледзеў мой уздуты ад халасьцяцкага рацыёну жывот і выправіў за дзьверы. Пасьля траўматоляга я трапіў да ўчастковага доктара. Мілая жанчына сярэдняга веку запатрабавала гаварыць па-расейску, чым парушыла яшчэ й маё маральнае здароўе. Пашукаўшы нешта ў маім роце і зьмераўшы ціск, яна выпісала мне накіраваньне ў 4-ю клінічную бальніцу, адкуль мяне вельмі хутка адфутболілі назад у паліклініку. І паехаў я тады да сваіх старых знаёмых на Прылуцкую. О, у калідорах знакамітага вэнскурдыспансэра асаблівая атмасфэра. Тут пацыенты адчуваюць сябе крэўнікамі, якія зьвязаныя адною сямейна-родавай таямніцай. Тут носяць свае хваробы паміж ног, паміж пальцаў і на пузе. А як асабліва прыхільна і сарамліва ўсьміхаюцца тут жанчыны! А гэты сівы мужчына, рэдактар пэдагагічнага часопіса — які ён мілы ў чарзе на мазок. Толькі тут, на другім паверсе знакамітай установы, трапіўшы на прыём да доктара жаночага полу, ты раптам бачыш і адчуваеш, як ЯНА, загадаўшы «адкрыць галоўку», уваходзіць у цябе тонкай мэталічнай штангай з малюпасенькім язычком на канцы. І табе ня сорамна. Ня сорамна, бо ты мужчына і бачыш перад сабою не жанчыну-доктара, а Сымпатычную Жанчыну Да Сарака Пяці, зь якой ты мог бы і дзіця зрабіць, ня тое што. Нават цяпер, калі ЯНА насаджвае цябе на сталёвы мэдыцынскі прэнт, ты ХОЧАШ. Ты заўсёды будзеш хацець. Ты будзеш хацець нават тады, калі ад французкай праструды ў цябе праваліцца нос. Доктар ужо завяршыла працэдуру і дазваляе табе схаваць сваё дарагое начыньне ў майткі, а ты, ты, неверагодна разбэшчаны тып, стаіш са спушчанымі штанамі, купленымі некалі за дзьве тысячы бел. рублёў у сталічнай краме «Несьцерка», і маракуеш, замужам яна ці не, і колькі гадоў ейнаму старэйшаму сыну (чамусьці табе здаецца, што ў ЯЕ павінен быць сын альбо два). За некалькі хвілінаў перад жанчынай-вэнэролягам ты адчуў сябе мазахістам і эксгібіцыяністам, успомніў выбраныя месцы з Фройда, Крафт-Эбінга і Вільгельма Райха, а потым стаў двухгадовым Слаўкам і папрасіў у мамы сісі. «Сын, ты ўжо вялікі», — сказала мама і намазала смочкі гарчыцай. Сын выплюнуў гаркое, малочнымі зубкамі балюча ўкусіў матчыны грудзі і моўчкі пайшоў хавацца ў бабуліным прыполе. [...]

*в. Жойдзішкі, Алегу Мізулу*

*Менск, 20.07.98 г.*

16-га сацыял-дэмакраты атрымалі дазвол на правядзеньне паэтычных чытаньняў. Быў там і я. І быў знак: дзяўчына ў мяне за сьпінаю ўпала віском аб асфальт. Дрэнны знак. Крычаць пра дыктатуру і да гэтай жа дыктатуры ходзяць па дазволы. У дыктатуры ня просяць — ёй ставяць клізмы! І толькі так ! [...]

Днямі прынёс мне адзін таварыш кнігу ўспамінаў савецкага дывэрсанта Лінькова, чыя група бандзюгавала ў гады Другой сусьветнай на тэрыторыі нашай Беларусі. Успаміны цікавыя тым, што напісаныя па гарачых сьлядох і ўтрымліваюць рэальную фактуру. Бадай, гэта першая кніга, якая пазнаёміла мяне з тым, як успрымаў «маскоўскі брат» нас, беларусаў, у гады нямецкай акупацыі. Дывэрсанты Лінькова (мянушка — «Баця») дзейнічалі спачатку на лініі Вялейка — Полацак, потым — на Піншчыне. Не магу не прывесьці тут некалькі асабліва пікантных пасажаў на мове арыгіналу.

«Было совсем светло, когда я вышел из леса. Впереди виднелись строения какой-то деревни, НЕПОДАЛЕКУ МОЛОДОЙ БЕЛОРУС КОСИЛ ТРАВУ. Я МАХНУЛ ЕМУ ШАПКОЙ, ОН МОЛЧА ПОСМОТРЕЛ НА МЕНЯ И НАЧАЛ ТОЧИТЬ КОСУ». І далей: «У околицы показался человек на хорошей лошади и поехал к лесу». На працягу ўсёй кнігі ў засланага маскоўскага «казачка» выклікаюць зьдзіўленьне «хорошие лошади» беларусаў. Ці то ў Расеі ў мужыкоў коні былі толькі дрэнныя, ці тут бальшавіцкая зайздрасьць прымушала аўтара зважаць на такую звычайную для беларуса акалічнасць, як добры конь? Відаць, і тое, і другое, і трэцяе: паводле лёгікі чырвоных камісараў не павінен быў беларускі мужык езьдзіць на дагледжанай скацінцы, калі немцы стаялі пад сьценамі Масквы. Насьцярожвае палкоўніка Лінькова й тое, што нават пад акупацыяй беларускі старшыня калгасу, «мужик лет сорока пяти, гладкий, с аккуратно подстриженной бородкой», пільнуецца гігіены і не заводзіць на галаве каўтун.

Зьдзівіў савецкага чалавека «председатель в Ковалевичах, со странной фамилией Муха...». Прозьвішча для расейца сапраўды дзіўнае, бо яно БЕЛАРУСКАЕ. Потым, праўда, палкоўнік Лінькоў усьцешыўся, згадаўшы, што «были такие молодцы, как Добрынин, Говорков, Федор Волков — настоящие русские богатыри» (таксама дывэсанты, падзельнікі «Баці»).

«Имея при себе пятерку отличных бойцов, капитан старался меньше появляться в деревнях и не торопился завязывать связи с местным населением». І правільна рабіў капітан, ох правільна.

«Где-то на другом конце деревни ныла гармошка, и пьяные голоса нестройно тянули «Пирапёлку» .[...] Мне стало грустно до слез». А я ўспомніў у гэтым месцы , як гадоў пяць таму дыктар расейскага радыёканалу часопіс «Полымя» назвала «палымем». І на хвіліну мне таксама стала сумна.

У сваіх успамінах палкоўнік Лінькоў сьведчыць, чаго каштавала нам дзейнасьць маскоўскіх дывэрсантаў: «Мы тогда узнали, что за организованный нами взрыв на шоссе немцы произвели расправу с местным населением. В двух ближайших деревнях они расстреляли семь человек и около тридцати увезли с собой».

Памятаю, бабуля распавядала, што і ў нашай Альхоўцы быў падобны выпадак. Нехта падарваў рэйку на чыгуначным перагоне Крывічы — Будслаў. Немцам стала вядома, што ў гэтым замяшаныя альхоўцы. Пахапалі, каго засьпелі ў хатах і на гародах, сагналі на ўзьлесак і выставілі пад кулямёт. Бабуля, мой бацька вярхом на казе і ягоны меншы брат, мой дзядзька Казік, засталіся жыць толькі дзякуючы пунктуальнасьці нямецкага афіцэра, які ў апошнюю хвіліну адмяніў загад на расстрэл. Аказалася, што падрыўнікі прыйшлі зь іншай Альхоўкі.

Слова «гума» запазычана ў нашу мову хутчэй за ўсё зь нямецкай, дзе яно гучыць як «Gummi». «Даць гумы» — цалкам беларуская фраза і азначае «адлупцаваць чым-небудзь», напрыклад гумовай палкай ці шлянгам ад пральнай машыны. У выніку складанага перакладу беларуска-нямецкіх дыялёгаў атрымалася такая вось маскоўска-палкоўніцкая «пэрліна»: «Наиболее рьяным «агитаторам» гестаповцы ОТСЫПАЛИ ГУММОВ [...]».

Распавядаючы, як маскоўскія дывэрсанты вучылі нашых мужыкоў дурыць немцаў, палкоўнік Лінькоў піша: «У нас были прямо-таки артисты по части таких «заявов». У гэтым сказе мяне цікавіць ня столькі зьмест тых заяваў, а тое, як маскаль «закавычивает» беларускае слова, ня могучы справіцца зь беларускім «у» кароткім. Тыя скабы абцінаюць нашае слова й сёньня.

Далей цытую без асаблівых камэнтароў.

«Мы провозглашали взволнованные тосты за здравие нашего дорогого вождя товарища Сталина, за нашу советскую Родину, за красавицу-столицу Москву».

«Перед нами открылись поля, а за ними большая деревня СО СТРАННЫМ НАЗВАНИЕМ БОЖИЙ ДАР».

«К тому же представлялось целесообразным израсходовать часть наших грузов на линии железной дороги Молодечно — Минск, которая проходила [...] у МЕСТЕЧКА РОДОШКЕВИЧИ, и на шоссе ПЛЕЩЕННИЦА — ЛАГОЙСК».

«Двое суток мы шли по лесам Налибокской пущи. Это была живописная дикая природа ТАЙГИ...»

У гэтых цытатах — увесь маскаль. Для яго Беларусь — тайга.

«Каб ты ў ёй галаву скруціў!» — сказала б мая бабуля-нябожчыца.

Працяг на старонцы 14.

# З ЦЫКЛЮ «СЬВЯТА СЭКСУАЛЬНАЙ БОЛЬШАСЬЦІ»

**Славамір Адамовіч**

*AVE, HOMO!*

*Радуйся, муж, целу!*
*Вось яно, загарэлае,*
*перамяшчаецца важна*
*паміж асфальтам і небам,*
*дожджык яго палівае,*
*сонейка сушыць і вецер,*
*рукі ўскідвае цела,*
*паказваючы падпашкі,*
*ножкамі кратае цела,*
*а ў целе, як вінчык у пляшцы,*
*булькае кроў і лімфа,*
*і ёкае селязёнка,*
*цела робіцца піфіяй,*
*цела сьмяецца звонка,*
*ляўрамі пахне цела,*
*кавуном і сьпелым сланечнікам:*
*падыдзі да цела з далёкім прыцэлам,*
*скінь зь цела жаданьняў заплечнікі...*
*Радуйся целу беламу!*
*Радуйся загарэламу!*
*радуйся целу наструненаму!*
*Расслабленаму!*
*Нясьмеламу!*
*Радуйся целу здароваму:*
*не прымушай худзець яго,*
*галіць на ножках валосікі,*
*а вусны псаваць памадай.*
*Радуйся целу чыстаму:*
*цела – як белая гліна,*
*як шаты дуба вячыстага,*
*як ліпеньская маліна.*
*Побач зь целам прыгожым*
*спакойна і ціха робіцца,*
*ня будзь жа да цела варожы,*
*не заклікай горбіцца.*
*У целе жывуць прагнасьці,*
*дух і жаданьне свабоды.*
*Цела – крыніца радасьці*
*і жыцьцядайных водаў.*
*Слаўлю я цела: вось яно*
*перамяшчаецца з гонарам,*
*рук пара і пара ног,*
*галава і тулава з органамі.*
*На целе станік і майтачкі,*
*дзьве складачкі вэртыкальна,*
*згуляем зь целам у мячык мы,*
*а потым пойдзем у спальню.*
*У спальні саліднай, як цешча,*
*на ложку салідным, як цесьць,*
*буду целу чытаць вершы*
*сама меней разоў шэсьць.*

*ЦЕЛА МАЯКОЎСКАГА*

*Марыя, дай, цела Ўладзімера*
*ня можа цярпець бясконца.*
*Расея пад Ленінам прыціхла, як вымерла,*
*асьлепшы ад бальшавіцкага сонца.*

*У грамадзянаў у штанах аблокі,*
*у кішэнях тырчаць чырвоныя кніжачкі,*
*расстралялі Міколку-цара і лёкаяў,*
*а страх яшчэ больш смокча пад лыжачкай.*

*Параплавы Саветаў заходзяць у гавані*
*краін Антанты зь візытам ветлівым,*
*у фаворы НЭП, як чаромха ў травені,*
*але цела сумуе ў касьцюме вэльвэтавым.*

*Беларус Аляхновіч па памяці крэмзае,*
*як жыў ён у кіпцюрох ГПУ,*
*ірванымі ранамі і парэзамі*
*цела расьпісана, як гросбух.*

*Цела Ўладзімера ад Каўказу да Мурмана*
*выпрасталася над трупамі галодных*
*Паволжжа.*
*У Менску чэкісты чысьцяць і ў Мураме,*
*каб забясьпечыць Маскву збожжам.*

*Вось цела Маякоўскага, паэта партыі,*
*і целы беспартыйныя на лягерных нарах.*
*Радкі лесьвіцай чаго вартыя,*
*калі прыступкі вядуць у бэстыярый?*

*Цела хоча пяшчоты, Марыя,*
*вялікае цела хоча асабліва,*
*пасьля зьнішчаць беларуса Мрыя,*
*мільёны пройдуць праз чырвонае мліва.*

*Ясеніну пісаў я, што памерці проста,*
*а жыць застацца з кляпам у зубах*
*паэту немагчыма, і таму так востра*
*карціць адправіцца ў невядомы шлях.*

*«Прыйду», – сказала ты, і я паверыў.*
*Чакаў гадзіну, і дзьве, і тры,*
*я нават расчыніў камунальныя дзьверы,*
*як дантыст пацыентам расчыняе ірты.*

*У газьніцы згарэлі і кнот, і вадкасьць,*
*у лямпе Ўльянава расплавіўся вальфрам.*
*Суседка за сьцяною пляскала ў ладкі*
*і доўга рагатаў дворнік Варлам.*

*Што ж ты, Марыя, цела змаглося,*
*цела больш ня можа цярпець зьдзек.*
*У гэтым балючым людзкім шматгалосьсі*
*выпала ЯМУ напароцца на стэк.*

# ЛІСТЫ Ў ПРАВІНЦЫЮ

Працяг са старонкі 13.

Не паверыш, калі скажу зараз, што ў мяне пад бокам жыве натуральны таёжнік. Летась я ледзь адбаяруўся ад мянта, якога хацеў дырэктар падсяліць у мой блёк. Ад беларускага мянта адбіўся — засялілі расейца з Уралу. Жонка ў яго — беларуска з Гарадзеншчыны. Называе свайго мэханіка таксапарку Міколкам і ледзь не штодня варыць яму пяльмені. Што ж, відаць пана па халявах.

*Віцебшчына, Мірону*

*Менск, 27 ліпеня 1998 г.*

[...] Ці вядомаваспану, што дывэрсанты з групы палкоўніка Лінькова, якая ў 1941-42 гадах дзейнічала на Лепельшчыне, таксама вывешвалі сьцягі, толькі чырвоныя, і мініравалі іх? Так што падумай. І будзь пільны. Пасьпехаў.

*М. Бобр, Пушкіну*

*Менск, 28.07.98 г.*

14 ліпеня правёў другія паэтычныя чытаньні. Прыйшлі ўдзячныя слухачы, дружна ўзьнялі парасоны, калі зацерусіў дождж, мужна выстаялі паўтары гадзіны. Не было ніякіх дазволаў на акцыю, не было і мянтоў. Думаю, варта замацаваць гэтую традыцыю правядзеньнем у канцы жніўня альбо ў пачатку верасьня трэціх чытаньняў. Дамо ім назву «Сьвята сэксуальнай большасьці». ТОЛЬКІ СЭКСУАЛЬНА ЗДАРОВЫ ІНДЫВІД МОЖА БЫЦЬ ЭНЭРГАНОСЬБІТАМ СУПРАЦІЎЛЕНЬНЯ РЭЖЫМУ І РУХАВІКОМ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ РЭВАЛЮЦЫІ. Хто адмаўляе Эрас — адмаўляе Нацыю.

*м.Бобр, Пушкіну*

*Менск, 30.07.98 г.*

[...] На Дзень Незалежнасьці мая палюбоўніца пагаліла ногі. Ды так старанна! Аж мне блага зрабілася і пацягнула на ваніты. Ледзь-ледзь устрымаўся. Узгадалася дзяцінства, лета і статак авечак. Узгадаліся першыя дні ў савецкім войску і загад старшыны «убрать грязь» пад носам. Пасьля некалькіх месяцаў эксплюатацыі лёзаў «Нева» замест пуху на шчоках пачала адрастаць сапраўдная шчэць, выклікаючы непрыемны сьвербж.

І яшчэ, з успамінаў пра турму. У камэры для малалетак, дзе я адбыў каля чатырох месяцаў, прыйшлося назіраць і такую форму зьдзеку над безабароннымі, як выбрываньне... броваў. Уяві сабе карціну, сябра. Уявіў? Цяпер табе будзе лягчэй зразумець маё супраціўленьне гвалту ня толькі чалавека над чалавекам, але й чалавека над прыродай. Там, дзе голяць ножкі, лёгка здымаць скальпы.

*Лагойск, Дылевічу*

*Менск, 5 жніўня 1998 г.*

[...] Пасьля адсідкі бачыў цябе ўсяго два разы, але пагаварыць па-людзку мы так і не змаглі. Абодва разы ты быў п'яны. Якога д'ябла?! Ты ж некалі выглядаў салідным мужчынам, заўсёды ў касьцюме й пад гальштукам. І што, «не стрывала душа паэта»? А хрэстаматыя беларускай літаратуры, якую ты ўкладаў? Як я разумею, яна так і не надрукаваная?

Зямляк! У нашай справе кожны чалавек на вагу золата, а ты... Прыцёгся на апошнія чытаньні ў замусоленай кашулі, гальштук дагары нагамі, у кішэні флякон якогась пойла... Ты што думаеш, ты арыгінальны ў сваім сьвінстве? Ды такіх «гаротных» сярод нашай інтэлігенцыі сотні й тысячы. І кожны зь іх носіцца са сваёй «дастаеўшчынай»...

Выбірай, пакуль ня позна: барыкады альбо каналізацыя?

*в.Жойдзішкі, А.Мізулу, таварышу па адсідцы*

*Менск, 7 жніўня 1998 г.*

[...] Будзе суд. Публічны й хуткі. Як асбаліва небясьпечнага злачынцу, яго закуюць у кайданы. На сваіх руках і нагах ён адчуе сталёвы аргумэнт Нацыянальнай Рэвалюцыі. Выязное пасяджэньне Народнага Трыбуналу адбудзецца ў Палацы Рэспублікі. Сьвежыя дошкі эшафоту выцісьнуць кроплю сасновай смалы. [...]

Схадзіў учора на піва ў забягалаўку, што каля ўнівэрсаму «Рыга». І хоць прапіўся, але натхніўся: з падслуханых дыялёгаў пачалі ў галаве маёй вязацца грубавата-павільёнавыя радкі:

«Глянь, што гэта такое з валасатымі ручкамі,
зь вялізнымі ручкамі,
з пляшывай галавой?
І што за яно вакол яго кучкамі,
кучкамі колеру, як пазалеташні лой?
А што гэта гартаюць валасатыя ручкі,
а пальцы тоўстыя чаго дрыжаць?
І на каго так грозна вусоў калючкі
наставіла морда і спрабуе крычаць?
А чыя гэта, сябра мой, нахабная цэра
з экрану тэлевізара лыпае бяльмом?
Шкада, што не сяджу я вось цяпер у бэтээры,
а то ох і заехаў бы ў іхны тэледом!
А во, глядзі, вусаты на нашым заводзе
начальніку цэха паказвае фігуры.
Ну, блін, фізіяномія, што ў цешчы пры нагодзе,
аж плямы пайшлі па дагледжанай скуры.
Казалі мне жанчыны зь ліцейнага цэху,
што нейкі Хашчавацкі зрабіў кіно,
«Звычайны рэзыдэнт» называецца для сьмеху,
але пра тое потым. Разьлівай віно...»
Ну, жывы буду — напішу працяг. Паведамляй, як рухаецца будоўля Дому. [...]

*Санкт-Пецярбург, спадару А.К.*

*Менск, жнівень 1998 г.*

[...] Выбачайце, але жаданьне маё ўскараскацца на парапэты Нявы неяк хутка апала. Менск, стары добры Менск трымае, бо ён ня нейкая там фрамуга ў Эўропу, ён і ёсьць сама новая Эўропа. А вось кабетка мая ў Піцер паехала. Некалі яшчэ пры Саветах у гэтым горадзе яе сярод белага дня скралі, ды ёй удалося ўцячы. Потым сустрэла яна мастака, ужо ў гадох мужчыну, які два месяцы завабліваў яе на сваю кватэру. Апошні дзень рамантычных спатканьняў скончыўся згвалтаваньнем. Але маладая жанчына не пайшла тапіцца ў чорных водах Нявы, ня стала піць атруту, ня стала вешацца на шаўковым касьнічку. Яна здабыла напалмавы «кактэйль», падпаліла кватэру гвалтаўніка, а потым вярнулася ў Менск, выйшла замуж за беларуса і нарадзіла ад яго прыгожага сына. Беларус, праўда, не стрываў нармальнага сямейнага жыцьця і сьпіўся.

... Эх і запалім мы некалі нашага суседа з чатырох вуглоў! А фортку адчынім, каб кісларод паступаў! [...]

*Масква, Зубаўскі бульвар, 5 Таварышу N*

*Менск, 10 жніўня 1998 г.*

[...] З ініцыятывы Ельцына МЗС РБ у 1997 годзе выправіла дзесяць выпускнікоў менскіх сярэдніх школ і школ-гімназіяў на вучобу ў маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных адносінаў. Большая палова гэтых юнакоў паводле нацыянальнасьці зьяўляюцца расейцамі, зь сем'яў вайскоўцаў альбо чыноўніцтва. Беларускі бок сплачвае стыпэндыю, а таксама — за пражываньне. І вучыць маскоўскі выкладчык гісторыі дзяржавы і права, што ВКЛ — гэта «изращенное проявление западно-русского сепаратизма». Ты, нашчадак старога беларускага роду, змог бы цярпець такія экзэрсісы? Не, ты ня змог бы. Таму цябе й не накіравалі.

[...] Нацыянальная Рэвалюцыя ня можа ўратавацца мінулым. Рэвалюцыя павінна шукаць новыя ідэі, новыя формы, новы стыль і новую мову. Пэрыяд міжкантынэнтальнай стабільнасьці завяршаецца. Гарантыяў няма як на Ўсходзе, так і на Захадзе. Ёсьць наш вэстыбулярны апарат, які можа ўтрымліваць нас у вэртыкальным становішчы толькі на сваёй беларускай глебе. [...] Кідай правінцыю ды хутчэй вяртайся ў Эўропу! Прыйшоў час узяць сяго-таго за шлункі. [...]

*м.Бобр, Пушкіну*

*Менск, 11.08.98 г.*

[...] Бытам пачаў, ім і завяршаю.

Удзумаў я пасьля хваробаў у лазьню схадзіць ды цела сваё дарагое прапарыць. Доўга, грунтоўна вымываўся ў лазьні №7, што на Маскоўскай на вуліцы. Ды так і не дамыўся — халодную ваду адключылі. Выскачыў я, як той Піліп з канапель, і да загадчыцы памывачнай канторы: так, маўляў і так, прашу вярнуць мне 12 тысяч 900 рублёў, што я аддаў за білет, паколькі, кажу, я атрымаў не задавальненьне, а форменную пэртурбацыю з прычыны адсутнасьці халоднай вады! А загадчыца гэтая, жанчына тых самых формаў, на якія ў мяне язык выпадае, як у вісельніка, і кажа: «У вас галава мокрая? Мокрая! Значыць, вы памыліся! Памыліся! Пісаць будзеце? Пішыце! У нас народу мала ходзіць, дык вы нам рэкламу зробіце».

[...] Дарагі ты мой таварыш, прыяжджай на трэція паэтычныя чытаньні. Запрашаю. Будзеш маляваць маіх чытачоў, а я прачытаю ім вершы пра вялікую любоў да Беларускага Цела...

# КІШЭННАЯ ГІСТОРЫЯ КУЛЬТУРЫ-2

**Адам Глёбус**

**Джота**

Фрэскі Джота падобныя да чыстага неба над спакойным Міжземным морам за хвіліну да ўзыходу сонца.

**Вэляскес**

Інфанты, вытканыя пэндзлямі Дыега Вэляскеса настолькі рэальныя, што вось-вось і загавораць, і ня проста загавораць, а пачнуць вельмі разумна прамаўляць па-гішпанску.

**Руо**

Францускі жывапісец-экспрэсіяніст Жорж Руо пісаў не кананічныя абразы, але веры, сьвятасьці, тэалёгіі ў іх болей, чым у більдачках і більдах рамесьнікаў ад рэлігіі.

Ведаю рамесьнікаў: прапануй грошы, і яны імгненна зьменяць і канфэсію, і канон, і веру.

Жорж Руо маляваў колеры сьвятасьці, убачаныя ім у гатычных вітражах.

**Дэльво**

Бэльгійскі сюррэаліст Поль Дэльво любіў чыгунку, асабліва станцыі. Ён намаляваў безьліч станцыйных краявідаў, у чыгуначнай архітэктуры яму бачыўся грэцкі Акропаль. Бельгіец пісаў і Акропаль, але замест яго на палотнах паўставалі чыгуначныя прыпынкі. А замест Вэнэры ў Дэльво вымалёўвалася ці то жонка, ці то каханка чыгуначніка. Зрэшты, бэльгійскі сюррэаліст ведаў: народ цікавіць не руіны Акропаля, а працоўная чыгунка, над якою стаіць поўня цыфэрблята.

**Манэ**

Ёсьць пэрыяды, калі жывапісцы нібыта сьлепнуць. Можна сказаць інакш: у пэўны час фавbooрытамі робіцца творцы, каму не па душы дзённае сьвятло. Прыкладам, у 40-я гады XX стагодзьдзя квітнелі сюррэалізм і канструктывізм (ці нэаклясыцызм, калі заўгодна). У абодвух плынях працавалі людзі, што ўпадабалі пражэктары, лямпачкі, ліхтары, жырандолі й сьвечкі. Можна паглядзець палотны Рэнэ Магрыта, карціны Поля Дэльво, архітэктуру фашыстоўскай Нямеччыны ці агітацыйныя плякаты, аддрукаваныя ў СССР. Прыкладаў безьліч. «Герніка» Пікаса не выпадае з шыхтоў начнога жывапісу.

Я знарок пачаў зь цемры, ночы й лямпачкі, каб рухацца супроць гадзіньнікавай стрэлкі ў накірунку бясспрэчнага сьвятла. Ніхто ня зможа абвергнуць сонечнасьць такіх мастакоў, як Поль Гаген і Вінцэнт Ван Гог. Яны ўсхвалялі сонца, і сонца найактыўнейшае, паўднёвае. У пошуках найярчэйшых фарбаў і колераў Гаген апынуўся на высьпе Таіці, а Ван Гог пасярод сонечна-залатога жатнёвага поля. Нават калі Ван Гог і маляваў лямпачкі, ліхтары й зоры, у яго на палотнах зьяўляліся сонцы.

Да постімпрэсіянізму, які пазначаны імёнамі Гагена і Ван Гога, быў уласна сам імпрэсіянізм – накірунак яскравы й выштукаваны з сонца, але сонца ранішняга.

Клод Монэ – мастак маладога сонца. У яговых палотнах ёсьць дыханьне абуджанае прыроды. Усе выдатныя імпрэсіяністы любілі золак. І Рэнуар, і Пісаро, і Сісьлей, і Манэ пісалі сонечныя раніцы, але ўсё ж апагеем сонечнасьці, сьвежасьці ўражаньня ад абуджэньня была творчасьць Клода Монэ.

Калі рухацца супраць часу шпарчэй, дык застаецца толькі пазначыць колькі вялікіх імёнаў і іх прыналежнасьць да той ці іншай пары сутак. Рэмбрант – мастак начны, як і Караваджыо з Латурам, а вось Леанарда да Вінчы – жывапісец сутоньня шарай гадзіны.

Падзел мастакоў на дзённых і начных – ня болей чым гульня. І рабілася гэта, каб падмацаваць адзін сказ... Клод Монэ –мастак ранішняга сонца.

**Брэйгель**

Геній паўночнага Адраджэньня Пітэра Брэйгеля (мужыцкага) займалі дзьве рэчы: Бабілёнская вежа й тыя, хто яе будуе, таму вярныняй ягонае творчасьці можна лічыць палатно са сьляпымі, што падаюць у яміну.

**Сурбаран**

Ігрушы, выдзюбаныя вастрадзюбым пэндзлікам Сурбарана, няўежныя, бо падобныя да жаночых торсаў, а таму значна больш прывабныя за ігрушы простыя.

**Міро**

Каталунскі дадаіст Жоан Міро паставіў пасярод Барсэлёны вялікі рознакаляровы чэлес і чамусьці назваў яго «Жанчына з птушкаю».

**Дзюрэр**

Майстар часоў Адраджэньня германец Альбрэхт Дзюрэр –жыцьцярадасны пэдант, схільны, аднак, да мэлянхоліі. Вось гэтая схільнасьць-загана й зрабіла зь яго генія.

**Джота**

На фрэсках пачынальніка Адраджэньня Джота няма людзей, на іх толькі анёлы. Анёлы, якія толькі што пахавалі блізкага, вельмі блізкага чалавека.

**Арбус**

Фотамастак-самагубца Дыяна Арбус убачыла й зафіксавала парадаксальнае падабенства дзяцей, хворых на даўна, з інфантамі, намаляванымі Дыега Вэляскесам.

**Шэкспір**

У трагедыі «Кароль Лір» Уільям Шэкспір перараканаў: шчодрасьць – такі ж сьмяротны грэх, як і скнапасьць.

# ЭПІЛЁГ БУРЫ

Пад раніцу 28 ліпеня праз Варшаву пракацілася моцная бура. У гэты час памёр Зьбігнеў Гэрбэрт, паэт, эсэіст і драматург, адзін з волатаў сусьветнае паэзіі нашага часу, легенда польскае літаратуры, на працягу многіх гадоў кандыдат на літаратурную прэмію Нобэля. Рэдактар Gazety Wyborczej Адам Міхнік заўважыў, што тым трывожным ранкам нібыта грэцкія й рымскія багі, пра якіх Гэрбэрт напісаў гэтулькі пекных вершаў, на імгненьне ўварваліся ў гісторыю, каб разьвітацца з паэтам. Апошняя кніга Гэрбэрта, выдадзеная сёлета ў траўні называлася «Эпілёг буры»...

Зьбігнеў Гэрбэрт нарадзіўся ў міжваенным Львове. Ягоны род — ангельскага паходжаньня. Па вайне, калі чырвоныя войскі занялі Львоў, паэт пераехаў у Кракаў. Тут ён атрымаў ступень магістра эканомікі. Адначасова Гэрбэрт скончыў факультэты права ў Торуньскім Унівэрсытэце і філязофіі — у Варшаўскім. У 1950-м ён дэбютаваў як паэт на старонках Tygodnika Powszechnego... А ўжо ў 56-м выйшла першая ягоная кніга «Струна сьвятла», якую вельмі прыхільна сустрэла крытыка. Нобэлеўская ляўрэатка, **Віслава Шымборская** прыгадвае:

*«Чакаўся кожны ягоны верш. Кожная чарговая ягоная кніжка абмяркоўвалася ў колах аматараў паэзіі як падзея вялікай мастацкай і маральнай вагі. Можна было рукою захінуць прозьвішча аўтара, і ўсё адно ягоны тэкст быў заўсёды пазнавальны. Яму было дадзена прамаўляць уласным голасам, што бывае толькі ў вялікіх мастакоў».*

У 1974 годзе зьявілася кніга Гэрбэрта «Пан Кагіто», у якой паэт пазнаёміў сьвет з легендарнай постацяй, у пэўнай ступені alter ego аўтара — скептыка, які з адлегласьці ўглядаецца ў сябе, у людзей і рэчы.

Гэрбэрта прызналі хутка. Ужо ў 64-м ён атрымаў Узнагароду імя Касельскіх, у 65-м дзяржаўную прэмію Аўстрыі, у 73-м нямецкую прэстыжную Ўзнагароду імя Гердэра, і яшчэ, яшчэ незьлічоную колькасьць узнагародаў і адзнакаў. Ягоныя вершы дасканала гучаць на розных мовах сьвету. Паангельску Гэрбэрт загучаў дзякуючы свайму сябру Чэславу Мілашу. Па-беларуску — дзякуючы Алегу Мінкіну. Упершыню ў Беларусі ягоны твор быў надрукаваны ў «Нашай Ніве», у 93-м. Гэта быў містычны верш «Каля брамы даліны».

Гэрбэрт быў значнай постацяй ня толькі ў літаратуры, але і ў палітыцы. Як піша Адам Міхнік, Гэрбэрт для польскае апазыцыі ў камуністычныя часы быў тым, кім быў Дантэ для Італіі. Такія вершы як «Пасланьне Пана Кагіта», а пасьля цэлая кніга «Рапарт з аблажанага гораду» сталі Біблій для «Салідарнасьці». У сьнежні 1975 году Зьбігнеў Гэрбэрт далучыўся да падпісантаў «Мэмарыялу'59», які зьмяшчаў пратэст супраць праекту зьменаў у канстытуцыі Польшчы, паводле якіх мусіла б замацавацца «руководящая и направляющая» роля кампартыі. У 86-м паэт вымушаны быў эміграваць і да 92-га жыў у Парыжы. Тут ён супрацоўнічаў з рознымі выданьнямі, падтрымліваў сяброўскія дачыненьні з многімі літаратарамі, у першую чаргу з **Чэславам Мілашам.**

На наступны дзень пасьля ягонае сьмерці Мілаш сказаў:

*«Я пачаў перакладаць яго на ангельскую, таму што ён вельмі мне імпанаваў. Я быў значна старэйшы і пачуваўся агітатарам, тым, хто прапагандуе польскую паэзію. Ніхто з польскіх паэтаў не надаваўся да гэтага лепей за Гэрбэрта.*

Гэрбэрт быў вельмі ўскладнёным псыхічна чалавекам, ягоная паэзія — гэта адбітак ягоных зьменлівых станаў. Гэта быў чалавек, які амаль не пісаў пра сябе... Толькі ў пары вершаў, дарэчы ў апошняй кнізе, ён наблізіўся да асабістых станаў... У той кнізе ёсьць вершы, якія сталіся нібы разьвітаньнем з жыцьцём».

А вось што сказаў пра Гэрбэрта яшчэ адзін



нобэлеўскі ляўрэат ірляндзкі паэт **Шэймас Хіні:**

*«Невыразнасьць пэрспэктывы, безасабовасьць, спакой — усё гэта бярэцца з позірку шырока адкрытых вачэй, утапленых упарта ў боль, несправядлівасьці, катастрофы. Гэта бярэцца таксама і з глыбокае любові да ўсёй заходняй традыцыі рэлігіі, літаратуры і мастацтва, чые скарбы паэту даступныя і якім ён не саступае. Гэрбэрт ведае праблему «выбітнага чалавека» лепей, чым які іншы пісьменьнік нашага стагодзьдзя».*

Клясыцызм Гэрбэрта — толькі маска, якая дазваляла пісаць пра тое, што дзеілася ў нашым стагодзьдзі, пра пагрозу таталітарызмаў і варты слёзаў лёс паняволеных народаў. Патас ягонае паэзіі, нягледзячы на іронію, якой у яго багата — гэта патас мысьленьня пра людзкое жыцьцё ў катэгорыях несумяшчальных парадоксаў. Мары пра свабоду й незалежнасьць, пра ідэалы культуры Эўропы, пры адначасовай панявярцы ў людзкім сьвеце. З гэткіх спрэчнасьцяў збудаваны сьвет Гэрбэрта, сьвет вельмі цяжкі і вельмі мудры.

**Антон Сіюль**



**Зьбігнеў Гэрбэрт**

## СТАРЫ ПРАМЭТЭЙ

*Піша мэмуары. Спрабуе ў іх высьветліць*
*месца героя ў сыстэме канчатковасьці*
*існаваньня, узгодніць спрэчныя паняцьці*
*побыту й лёсу.*

*Агонь весела палыхае ў камінку, на кухні*
*кратаецца жонка —*
*экзальтаваная дзяўчына, якая не змагла*
*нарадзіць яму сына, але*
*цешыцца, што й гэтак увойдзе ў гісторыю.*
*Падрыхтоўка да вячэры,*
*на якую мусяць прыйсьці мясцовы пробашч і*
*аптэкар, найбліжэйшы*
*цяпер прыяцель Прамэтэя.*

*Агонь палыхае ў камінку. На сьцяне*
*чучала арла й пахвальны ліст тырана*
*Каўказу, якому дзякуючы вынаходзтву*
*Прамэтэя ўдалося спаліць узбунтаванае*
*места.*

*Прамэтэй ціха сьмяецца. Гэта цяпер*
*адзіны ягоны спосаб выказаць нязгоду*
*са сьветам.*

**Пераклаў з польскае Алег Мінкін**

## ЭПІЛЁГ БУРЫ

*(з апошніх вершаў)*

### Трэбнік

*Госпадзе*
*я ведаю палічаныя дні мае*
*засталося іх няшмат*
*Адно каб мне яшчэ пасьпець сабраць пясок*
*якім прыкрыюць мой твар*

*не пасьпею ўжо*
*здаволіць пакрыўджаных*
*ані выбачыцца перад усімі*
*якім я ўчыніў быў зло*
*таму смутная мая душа*

*жыцьцё маё*
*павінна споўніць круг*
*закончыцца як добра ўкладзеная саната*
*але цяпер я бачу дакладна*
*за момант перад кодай*
*сарваныя акорды*
*спалучаныя кепска колеры і словы*
*гул дысананс*
*галас хаосу*

*чаму*
*маё жыцьцё*
*не было што кругі на вадзе*
*абуджаным у неабсяжных нетрах*
*пачаткам які расьце*
*зьбіраецца ў пласты ступені складкі*
*каб спакойна сканаць*
*ля тваіх неадтаемненых каленяў*

### Дыяна

*чаму мяне ўласна хвалюе*
*што гэтыя ногі належалі*
*сапраўднай прынцэсе*

*рэшта заставалася*
*гіпатэтычнай*

*якая мне ўласна рахуба*
*што гэтыя ногі*
*калі шчэ складалі*
*няўяўнае цэлае*
*вымагалі*
*болей клопату*
*чымся ўсьмешка Нэфэрціці*
*чымся эталён*
*часу й прасторы*
*памешчаны ў Грынвіч*

### Лірычная сфэра

*Відаль на парк і мур у надвячоркавым сьвятле*
*як у Каро - скурка лімона скура шчакі ў пудры*
*пасьля балю паветра залачэннае й нічога чыста*
*не чуваць аніякага шэпту ані прыглушаных*
*вокрыкаў паціску рук спатнелых беганіны*
*толькі душа стаецца хваравіта кволым*
*павучыньнем*
*і на паветры ўпарціцца шчэ як усьмешка*
*Джаконды*
*этрускіх дзяўчат*

*усьмешка Сфінкса*

*Турбот не абабрацца*
*Перад ад'ездам*
*гармідар*

*папера прадметы*
*на ўзьлёце*

*нібы адчулі*
*што трацяць*
*права на гравітацыю*
*ўраз з выездам*
*Пана Когіта*

*няплачаныя рахункі*
*нявернутыя пазыкі*
*пад слова гонару*
*нястворавыя вершы*
*дамоўленасьці без працягу*
*бяз чырвані любошчы*
*піва недапітае*
*ўсё гэта лётае*
*ў галаве Пана Когіта*

*гармідар большае*
*што ж будзе*
*калі ня ўдасца*
*ўтаймаваць стыхіі*

*але ж бясконца*
*нельга*
*ў няпэўнасьць*
*адкладаць*
*выезду на вакацыі*

*дык жа пэўнага дня*
*альбо ночы*
*калі ўсё тое скончыцца*
*Пан Когіта*
*ладкуецца выгодна*
*на падушках*
*экспрэсу*
*прыкрываючы*
*азяблыя калені*
*пледам*
*прыходзіць да высновы*
*што ўсё тут пойдзе ўперад*
*як да вакацыяў*
*напэўна горш*
*чым за жыцьцё Пана Когіта*
*але няўхільна пойдзе*

### Тканіна

*Бор ніцяў пальцы вузкія й вернасьці кросны*
*чаканьні цёмныя хістаньні*
*то ж будзь пры мне о памяці цявіна*
*і дай сваёй бясконцасьці любосна*

*Сумленьня кволы лёт стук аднастайны*
*адмервае гады стагодзьдзі высны*
*каб перанесьці ўрэшце на бераг камяністы*
*човен і ўток асновы й саван*

**Пераклаў з польскае Юрась Бушлякоў**

